Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 47 (4693) 23 лістапада 2012 г.

Думка пісьменніка

## Бліжэй да народнага слова



Сапраўдны мастацкі твор павінен вызначацца не толькі глыбокім, праўдзівым адлюстраваннем навакольнага свету, але і багатай, самабытнай моваю. Паказчык багацця мовы — вобразнавыяўленчыя сродкі, а самабытнасці — экзатызмы, а таксама дыялектызмы, сярод якіх важную ролю адыгрываюць гаваркія словы. Яны не толькі называюць пэўны прадмет ці з'яву, але і непаўторна свежа, вобразна характарызуюць іх. Праз такія словы выяўляецца адметнасць светабачання і светаўспрымання народа. Таму пісьменнік павінен не абмяжоўвацца ўжываннем агульных слоў, а імкнуцца выкарыстоўваць тыя з іх, якія дэталізуюць паняцце, выяўляюць у ім ледзь улоўныя адценні. Розныя ўяўленні ўзнікнуць у чытачоў, калі яны прачытаюць звычайнае слова *дождж* і гаваркія *пырскуль* (рэдкі дождж), дождж-*грыбасей* (цёплы, дробны дождж, які спрыяе росту грыбоў) ці дождж-*шаптун* (ціхі, шапаткі дождж). У першым выпадку — агульнае ўяўленне, у другім — вобразнае.

Багатая на гаваркія словы народная мова. Успамінаюцца словы-залацінкі з роднай мне стрэшынскай гаворкі (Жлобінскі раён), занатаваныя ад бацькоў. Некаторыя з іх абазначаюць паняцці, для наймення якіх няма аднаслоўных адпаведнікаў у літаратурнай мове: *коская* — трава, якая добра косіцца, *варэйка* — гліняны гаршчок, *жаўтапёсак* — жоўты пясок, *падценніца* — зацененае месца, *некась* — пакінутая зімаваць няскошаная трава, *крышні* — сушаныя скрылікі яблыкаў, груш. Так і просіцца, каб згадаў, і такія слоўцы, як *стылеча* — холад, *зіхаць* — імкліва абглядаць, *пякун* — моцны мароз, *згарованы* — гаротны, *капаніца* — матыка, *зніцца* — сутуліцца, згорбіцца, *ядкі* — смачны (пра траву, сена)… Такія словы маюць усе падставы дзеля таго, каб увесці іх (праз мову мастацкай літаратуры) у літаратурны ўжытак. Няма сумнення, яны стануць моўнай аздобай любога мастацкага твора, а ўрэшце — і мовы ўвогуле. Павучыцца, як трэба па-майстэрску, далікатна, ашчадна карыстацца народным (у тым ліку гаваркім) словам, ёсць у каго. Скажам, у тонкага знаўца роднае мовы, выдатнага навукоўца-філолага і адмысловага пісьменніка Фёдара Янкоўскага.

З любасцю да народнага слова павінен ставіцца кожны беларус. Годна яно павінна пачуваць сябе ў мастацкіх творах сучасных беларускамоўных пісьменнікаў.

З самабытнымі беларускімі словамі — як літаратурнымі, так і дыялектнымі, у тым ліку з гаваркімі, — трэба знаёміць вучняў на ўроках роднай мовы і літаратуры, каб і яны ведалі, што беларуская мова своеасаблівая, непаўторная, а значыць — па-свойму багатая. Думаецца, гэта ў пэўнай ступені будзе садзейнічаць павышэнню прэстыжу беларускай мовы, больш прыхільнаму стаўленню да яе вучнёўскай моладзі, а магчыма, заахвоціць яе актыўней чытаць беларускамоўную мастацкую літаратуру.

**Васіль РАГАЎЦОЎ**




Фота Кастуся Дробава.

Алег Жугжда атрымлівае "Купалінку" з рук старшыні журы II Нацыянальнай тэатральнай прэміі Аляксея Дударава.

# Адна «Пікавая дама» і чатыры бронзавыя

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

Галоўныя ўзнагароды II Нацыянальнай тэатральнай прэміі гэтым разам адправіліся ў Гродна. Спектакль Гродзенскага абласнога тэатра лялек "Пікавая дама" паводле аповесці А. Пушкіна і оперы П. Чайкоўскага (рэжысёр Алег Жугжда) скарыў тэатральных акадэмікаў і перамог адразу ў чатырох намінацыях. Пастаноўка прызнана і лепшым спектаклем тэатра лялек, і лепшым спектаклем II Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Алег Жугжда атрымаў "Купалінку" за лепшую рэжысуру, а Ларыса Мікуліч — за лепшую жаночую ролю.

У намінацыі "Лепшы спектакль для дзяцей" перамог спектакль Магілёўскага абласнога тэатра лялек "Чароўны пэндзаль" А. Сабелы і І. Казакова (рэжысёр Ігар Казакоў). Таццяна Нерсісян за працу над спектаклем Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек "Вянчанне" В. Гамбровіча (рэжысёр Аляксандр Янушкевіч) узнагароджана ў намінацыі "Лепшая работа мастака-пастаноўшчыка".

Двойчы быў адзначаны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" Ф.-У. Радзівіл, С. Кавалёва (рэжысёр Мікалай Пінігін): за лепшае музычнае афармленне спектакля (Андрэй Зубрыч) і за лепшую работу харэографа-пастаноўшчыка (Наталля Фурман). Лепшым акцёрам прызнаны Аляксандр Палазкоў — выканаўца ролі Філімона Пупкіна ў спектаклі "Пан Міністар" Ф. Аляхновіча Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача (рэжысёр Уладзімір Савіцкі). А ў намінацыі "Лепшая пастаноўка па творы сучаснага беларускага аўтара" перамог спектакль Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра "Аднакласнікі" (рэжысёр Кацярына Аверкава), пастаўлены паводле п'есы Юліі Чарняўскай "Буковки".

Прэміяй Міністэрства культуры за ўклад у тэатральнае мастацтва ўганараваны народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук. Узнагародай за лепшую музычную пастаноўку — спектакль "Аіда" Дж. Вердзі (рэжысёр Міхаіл Панджавідзе) — адзначаны Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета. Дэбют акцёра Драматычнага тэатра беларускай арміі Сяргея Фромічава-Корсакава ў межах Нацыянальнай тэатральнай прэміі — выканаўца ролі Аляксандра ў спектаклі "Бяда ад пяшчотнага сэрца" У. Салагуба (рэжысёр Марына Дударава) — адзначаны прызам "Крыштальная кветка".

*Падрабязнасці пра намінантаў і пераможцаў чытайце на старонках 20 – 21.*

# Вачыма часу, або Размова з мінулым…

18 лістапада споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Міхася Машары (1902 — 1976). Пражыўшы даволі складанае, насычанае значнымі грамадска-сацыяльнымі падзеямі і пераўтварэннямі жыццё, ён увайшоў у гісторыю айчыннай літаратуры як таленавіты паэт і празаік, цікавы драматург і перакладчык.

**Мікола МІКУЛІЧ**

Нарадзіўся М. Машара на хутары Падсосна былога Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Шаркоўшчынскі раён Віцебскай вобласці) у сям'і беззямельнага селяніна. У 1920-я гады М. Машара браў актыўны ўдзел у разгортванні народна-патрыятычнага руху ў Заходняй Беларусі. Пасля чарговага апублікавання ў газеце сацыяльна вострых, забароненых да друку матэрыялаў, і яе канфіскацыі польскай дэфензівай былі арыштаваны і пасаджаны ў цэнтральную віленскую турму Лукішкі".

Першы зборнік паэта "Малюнкі" выйшаў намаганнямі З. Верас на сродкі МОПРа ў 1928 годзе, калі аўтар знаходзіўся ў Лукішках. Яго склалі чатырнаццаць вершаў, напісаных непасрэдна ў турэмных лёхах. Тым не менш кніжка прасякнута мажорнымі матывамі і інтанацыямі, жыццесцвярджальнай энергетыкай.

Трэба пагадзіцца з А. Лісам, які абгрунтавана называе М. Машару самым "прадуктыўным паэтам у заходнебеларускай літаратуры першай паловы 30-х гадоў". У перадваенкае дзесяцігоддзе М. Машара становіцца адным з самых папулярных сярод масавага чытача Заходняй Беларусі, па яго творах ладзіліся культурна-асветныя імпрэзы, ставіліся спектаклі. Яго ідэйна-мастацкія пошукі з'яўляліся прадметам выступленняў у беларускім савецкім, а таксама польскім, украінскім, чэшскім друку.

Верш паэта падкрэслена традыцыйны для нашай літаратуры, звыклы для ўспрыняцця шырокага чытача. Лірычны герой М. Машары — натура маладая, дзейсная, апантаная пошукам праўды і ісціны. Разам з тым яму нестае цэльнасці характару, выразнага ўсведамлення грамадска-эстэтычнага ідэалу, акрэсленага адчування гуманістычнай мэты.

**(Заканчэнне на стар. 4.)**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызначыў Паўла Латушку Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы, Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА па сумяшчальніцтве. Да гэтага П. Латушка з чэрвеня 2009 года працаваў на пасадзе міністра культуры Беларусі.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў артыста-вакаліста, вядучага майстра сцэны заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь", народнага артыста Беларусі Мікалая Скорыкава з 55-годдзем. "Дзякуючы выбітнаму таленту, моцнаму голасу, высокаму прафесіяналізму і яркім артыстычным здольнасцям вы сталі адным з самых вядомых і любімых публікай майстроў беларускай эстрады", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Эльдара Разанава з 85-годдзем. Кіраўнік дзяржавы зазначыў, што ў Беларусі Э. Разанава ведаюць і высока цэняць як выбітнага рэжысёра, чые фільмы ўмацоўваюць у сучасным свеце ідэалы гуманізму і духоўнасці.

✔ Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Лешэк Шарэпка падпісалі праграму супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры дзвюх краін на 2012 — 2014 гады. Праграмай, прынамсі, прадугледжана супрацоўніцтва ў сферах кінематаграфіі, тэатральнага мастацтва, рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, музейнай і бібліятэчнай справы, а таксама стварэнне помнікаў дзеячам культуры і абменныя стажыроўкі. Такую ж праграму плануецца да канца года падпісаць з Латвіяй.

✔ Па ініцыятыве Міністэрства культуры Беларусі і Пасольства Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы сёлета ў Вільнюсе будзе ўстаноўлена памятная дошка Якубу Коласу, аўтары якой — Іван Міско і Андрэй Жылінскі. Размесціцца яна на будынку па вул. Піліма, 26, дзе ў 1907 годзе жыў і працаваў класік. Таксама мяркуецца аднавіць памятную дошку Янку Купалу (Сяргей Аганаў і Вольга Нячай) — яна будзе размешчана па вул. Вільняўс, 14, тут у 1914 — 1915 гадах знаходзілася рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Да канца года плануецца ўстанавіць выраблёную Паўлам Вайніцкім памятную дошку Янку Купалу ў Рызе, на будынку школы, якая носіць імя паэта.

✔ Па ініцыятыве Міністэрства культуры Беларусі і Чэрвеньскага райвыканкама вядзецца работа па стварэнні помніка-бюста сусветна вядомаму кампазітару Станіславу Манюшку. Устаноўлены ён будзе на радзіме кампазітара ў г. Чэрвені. Эскізны праект распрацоўвае малады скульптар Канстанцін Касцючэнка.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Прысвячаецца Песнярам

Днямі сталі вядомы імёны пераможцаў гарадскога літаратурнага конкурсу, прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Рыта СТАХ

Конкурс арганізаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і падтрыманы Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама. Удзельнікамі спаборніцтва сталі падлеткі і моладзь ад 14 да 25 гадоў. З 566 прэтэндэнтаў вызначыліся больш як 30 юных лаўрэатаў.

Старшыня журы конкурсу — пісьменнік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў:

— Мы праводзілі розныя конкурсы: міжнародны, прысвечаны 65-годдзю Перамогі; прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча (ён пасля перарос у агульнарэспубліканскі). А гэты агульнагарадскі літаратурны конкурс прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Песняроў. Ён доўжыўся крыху больш як год, і ў ім узялі ўдзел вучні і студэнты 163 навучальных устаноў і арганізацый сталіцы. На нашу радасць, мы адкрылі вельмі цікавыя імёны. Да прыкладу, Кацярына Массэ стала пераможцай у намінацыі "Паэзія". Мы выдалі яе кнігу ў серыі "Мінскія маладыя галасы", прэзентацыі якой паспяхова прайшлі ў бібліятэцы і школе. Праўда, піша Кацярына па-руску.

Агулам жа на конкурс паступіла больш як 1,5 тысячы твораў. Найбольш — вершаў, але шмат і празаічных твораў: кароткія аповесці, апавяданні, абразкі, замалёўкі, нарысы. Таксама — літаратуразнаўчыя і краязнаўчыя артыкулы.

— Расце здаровая творчая моладзь, — падкрэсліў Міхась Пазнякоў. — Да таго ж мы нацэльваем на пашырэнне роднай мовы. На жаль, папярэднія конкурсы паказалі: 80 — 90 працэнтаў пішуць на рускай мове. У гэтым конкурсе зроблены ўхіл на беларускую, і атрымалася прыкладна 50 на 50. Хлопчыкі і дзяўчынкі вывучаюць і ведаюць яе!

Такім чынам, у намінацыі "Паэзія" пераможцамі сталі вучаніца СШ № 73 Кацярына Массэ (да 18 гадоў) і выпускніца Мінскага тэхналагічнага ўніверсітэта Людміла Клачко (да 25 гадоў). У намінацыі "Проза" — студэнтка Белдзяржуніверсітэта Ганна Касцючэнка (да 18 гадоў) і выпускніца Мінскага дзяржаўнага педуніверсітэта Алена Аляксеева (да 25 гадоў). У намінацыі "Публіцыстыка" перамагла студэнтка БДУ Кацярына Бадзеева. Лідар у намінацыі "Краязнаўства" — вучаніца гімназіі № 35 Анастасія Мароз; "Літаратуразнаўства" — вучаніца СШ № 53 Алена Несцер (да 18 гадоў) і Аляксандра Імбра-Прымава (да 25 гадоў).

Пераможцаў ушанавалі ў Доме літаратара. Лаўрэатам конкурсу ўручаны дыпломы Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і падарункі. Граматамі адзначаны таксама найбольш актыўныя настаўнікі сталічных школ.

Па выніках конкурсу ў кніжнай серыі "Мінскія маладыя галасы" будзе выдадзены альманах "Маладзік", які пазнаёміць чытачоў з лепшымі творамі лаўрэатаў.

## Духоўныя абсягі



Уладыка Кірыл уручае А. Статкевічу-Чабаганаву ўзнагароду.

# Статкевічу-Чабаганаву — спецыяльны прыз

Барыс АЛЯХНОВІЧ

XI царкоўна-грамадская выстаўка-форум "Праваслаўная Русь — да Дня народнага адзінства" прайшла ў Маскве. Удзельнічала ў ёй і беларуская дэлегацыя, у склад якой уваходзілі выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў і вядомы даследчык дваранскіх родаў, дзеяч культуры Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.

У межах выстаўкі-форуму адбылося ўрачыстае ўручэнне дыпломаў і памятных прызоў лаўрэатам VII адкрытага конкурсу выданняў "Асвета праз кнігу", які праводзіцца па блаславенні Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з мэтай аб'яднання ўсіх царкоўных і свецкіх выдавецтваў па выяўленні выданняў і праграм, што адпавядаюць высокім маральным ідэалам духоўнай асветы і патрыятычнага выхавання, а таксама дзеля прыцягнення грамадскай увагі і выдавецкай цікаўнасці да выхавання падрастаючых пакаленняў на сапраўдных хрысціянскіх каштоўнасцях.

Сярод выданняў, прадстаўленых на конкурс, вялікі рэзананс выклікалі тры тамы "Я — сын Ваш. Летопись белорусской шляхты" А. Статкевіча-Чабаганава, што пабачылі свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата. І як вынік — прысуджэнне спецыяльнага прыза конкурсу "За захаванне духоўнай і культурнай спадчыны".

Выданнем "Я — сын Ваш" зацікавіўся і сам Уладыка ўсяе Русі. Ён спыніўся, каб уважліва пазнаёміцца з імі. "О, дык у іх цэлая гісторыя дваранства!" — у захапленні ўсклікнуў Свяцейшы Патрыярх.

Вялікая княгіня Марыя Уладзіміраўна таксама вельмі высокай думкі пра работу А. Статкевіча-Чабаганава. Яна ўручыла даследаванне "Я — сын Ваш" старшыні Дзяржаўнай думы Расіі Сяргею Нарышкіну, які з'яўляецца старшынёй гістарычнага таварыства Расійскай Федэрацыі.

## Да ведама

# Зноў II Нацыянальная…

На гэты раз — музычная.
У мінулую пятніцу на прэс-канферэнцыі ў Музеі Уладзіміра Мулявіна Беларускай дзяржаўнай філармоніі быў дадзены старт II Нацыянальнай музычнай прэміі.
Яе арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне".

Ірына ТУЛУПАВА

Фактычна распачаўся першы этап конкурсу, калі можна накіроўваць свае заяўкі на ўдзел у 19 аб'яўленых намінацыях. У параўнанні з мінулым годам іх спіс пашыраны і ўдакладнены — дзеля таго, каб максімальна рэалізаваць асноўную мэту конкурсу. Як зазначыў першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі, спаборніцтва праводзіцца ў мэтах развіцця нацыянальнага эстраднага музычнага мастацтва, стварэння ўмоў для прасоўвання творчасці таленавітых беларускіх эстрадных выканаўцаў, кампазітараў-песеннікаў, аранжыроўшчыкаў, прадзюсараў.

Сёлета ў конкурс унесены значныя змены. Па-першае, з самой назвы спаборніцтва зніклі словы "ў галіне эстраднага мастацтва". Такім чынам пашырыліся межы Нацыянальнай музычнай прэміі. Конкурс праводзіцца ў два (а не ў тры, як было раней) этапы: вынікі будуць падведзены на гала-канцэрце ў Палацы спорту 12 снежня. З'явіліся новыя намінацыі, якіх раней не было. Да прыкладу, "Лепшая песня (музычны альбом) для кіно, тэлебачання". Намінацыя "Лепшы выканаўца" цяпер будзе разглядацца з улікам музычных жанраў: лепшы поп-, рок-, джаз-, а таксама этна-фольк-выканаўца. Намінацыя "Лепшы кампазітар" заменена на "Лепшы аўтар музыкі", адпаведна "Лепшы паэт-песеннік" на "Лепшы аўтар слоў". Ну, а галоўныя з усіх — "Лепшая песня года", "Лепшая беларускамоўная песня года", "Адкрыццё года". "Па кожнай з 19 пазіцый будуць вызначаны не менш пяці намінантаў", — запэўніў намеснік генеральнага дырэктара Сталічнага тэлебачання Павел Каранеўскі. Пераможцаў вызначыць журы конкурсу (старшыня — мастацкі кіраўнік ансамбля "Сябры", народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка) шляхам тайнага галасавання. Асноўныя крытэрыі адбору — мастацкая і грамадская значнасць твора.

Упершыню конкурс прайшоў у 2011 годзе. Па яго выніках былі выдадзены дыскі "Нацыянальная музычная прэмія", куды ўвайшлі песні-пераможцы, і "Залатая калекцыя беларускай песні". З соцень песень XX стагоддзя, прадстаўленых для галасавання Маладзёжным тэатрам эстрады і тэлеканалам СТБ, гледачы выбралі 35 кампазіцый. Сярод іх — "Александрына", "Алеся", "Бывайце здаровы", "Вераніка", "Гаю мой, не кліч", "Горыч-ягада", "Завушніцы", "Зорка Венера" ды іншыя. Сёлета плануецца прадоўжыць складанне "залатой калекцыі" — у планунемы дыск будуць уключаны шырокавядомыя беларускія песні на рускай мове.

Літабсягі

# Вечар памяці Рыгора Сакалоўскага

У Доме літаратара 26 лістапада ў 18.30 збяруцца тыя, хто ведаў Рыгора Сакалоўскага — як творцу, таварыша, сябра… Згадаць, якім ён быў, і пачуць яго слова — у вершах і песнях.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

На вечары памяці "Гэты шлях завешчаны мне лёсам", арганізаваным па ініцыятыве Леаніда Нікольскага, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь і блізкага сябра Рыгора Сакалоўскага, прагучыць вялікая колькасць лірычных ваенных песень, напісаных на словы паэта.

Жыццё Рыгора Сакалоўскага было звязана з арміяй. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча і рэдактарскага аддзела Ваенна-палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна ён служыў у Паветрана-дэсантных войсках, выконваў інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане, дзе разам з калектывам 1 студзеня 1980 г. выдаў газету "Гвардейская доблесть". Дзесяць год (1989 — 1999) быў галоўным рэдактарам газеты "Во славу Родины". У 1999-м выбраны намеснікам Мінскай арганізацыі журналістаў. З 2000 года — першы намеснік старшыні Беларускага саюза журналістаў.

У 2005 г. Р. Сакалоўскі быў выбраны старшынёй Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў (у тым ліку "Афганская тетрадь", "Зарево души", "В судьбе и сердце", "Счастье земное", "И век с тобою не расстанусь", "Услышь мой голос", "Мозаика чувств") і песень, музыку да якіх напісалі вядомыя кампазітары І. Лучанок, Э. Ханок, Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны.

Рыгор Сакалоўскі з'яўляецца лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За высокія творчыя дасягненні ў сферы культуры і мастацтва", літаратурнай прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі Беларускага саюза журналістаў "Залатое пяро". Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі".



У вечары, прысвечаным памяці Рыгора Сакалоўскага, плануюць узяць удзел родныя і сябры журналіста, заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь "Узорна-паказальны аркестр Узброеных сіл", начальнік ваенна-аркестравай службы Узброеных сіл, начальнік узорна-паказальнага аркестра Узброеных Сіл Беларусі, заслужаны артыст Беларусі палкоўнік Сяргей Касцючэнка. Таксама завітаюць народны артыст СССР і Рэспублікі Беларусь Ігар Лучанок, народныя артысты Рэспублікі Беларусь Эдуард Ханок і Эдуард Зарыцкі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Нікольскі, Аляксандр Саладуха, Жанна Піваварава, аўтар-выканаўца Леанід Шурман, Максім Качаткоў, Улад Нікольскі і інш. Вядучая — Ларыса Грынько. За ўсімі званнямі ды пасадамі — сапраўдныя сябры, якія памятаюць і любяць.

Арт-лінія

# Вялікая руская опера на сцэне Вялікага тэатра

Сёння ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь — чарговая прэм'ера. Новую рэдакцыю оперы "Князь Ігар" Аляксандра Барадзіна падрыхтавала надзвычай цікавая пастановачная каманда.



**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета РБ**

Мінулай пастаноўцы "Князя Ігара" споўнілася ўжо 16 гадоў, таму прыспеў час капітальна абнавіць спектакль, які ў 1996 годзе ажыццявіў рэжысёр Юрый Аляксандраў. Сёння Юрый Ісакавіч — народны артыст Расіі, мастацкі кіраўнік і дырэктар Камернага музычнага тэатра "Санктъ-Петербургъ Опера", мэтр опернай рэжысуры, на рахунку якога больш як 250 спектакляў у лепшых тэатрах свету.

"Князя Ігара" Аляксандраў ставіў за час сваёй прафесійнай кар'еры далёка не аднойчы, аднак мінскі спектакль апынуўся для яго першым вопытам работы з гэтым матэрыялам: "Я больш як дзесяць разоў звяртаўся да оперы "Князь Ігар". Магу з упэўненасцю сказаць, што тэмы, закладзеныя ў спектаклі, я дастаткова сур'ёзна пераасэнсаваў для сябе. У першую чаргу гэта спектакль менавіта пра рускіх людзей. Падчас рэпетыцый у Вялікім тэатры Беларусі мы працавалі над тым, як паказаць усіх персанажаў у развіцці. Яраслаўну — ад юнай жанчыны, якая абсалютна ашаломленая рашэннем мужа пайсці на вайну, і да палітыка, вымушанага ў адзіночку кіраваць дзяржавай. Самога Ігара — ад лідара, што не ведае сумненняў, да старца, які вярнуўся на сваю зямлю пасля страшнага палону і ўцёкаў.

Вельмі важна, каб персанажы развіваліся, менавіта гэтаму была прысвечаная наша рэпетыцыйная праца. Мы і паспрабавалі знайсці ў спектаклі правільную інтанацыю. Пры тым, што пачыналі працу над ім з самага пачатку. Калі я прыступіў да рэпетыцый, зразумеў: нічога з таго, што мы рабілі раней, не застаецца. Таму, мабыць, для мяне "Князь Ігар" у Вялікім тэатры Беларусі — гэта новая рэдакцыя, прынцыповае пераасэнсаванне матэрыялу, новае разуменне ўсяго назапашанага жыццёвага вопыту".

У адрозненне ад першай рэдакцыі "Князя Ігара", цяпер музычным кіраўніком спектакля стаў заслужаны артыст Расіі, дырыжор Вялікага тэатра Расіі, запрошаны дырыжор Лонданскай каралеўскай оперы (Ковент-Гардэн) Павел Сарокін. Разам з мастаком-пастаноўшчыкам Людмілай Ганчаровай, хормайстрам-пастаноўшчыкам народнай артысткай Беларусі Нінай Ламановіч і вядучымі салістамі тэатра яны склалі бліскучы ансамбль, вынікам работы якога проста неабходна пацікавіцца!

Повязі

# «Вясна» Пурвітыса завітала ў Мінск

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь пачала працу выстаўка адной карціны выбітнага латвійскага жывапісца XX стагоддзя Вільгельма Пурвітыса "Вясна", прымеркаваная да Дня незалежнасці Латвіі (18 лістапада). Выстаўка арганізавана Латвійскім Нацыянальным мастацкім музеем (Рыга) пры ўдзеле і падтрымцы Пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ**

Па словах Гундэгі Цаберэ, куратара выстаўкі і захавальніцы калекцыі Латвійскага Нацыянальнага мастацкага музея, Вільгельм Пурвітыс — класік нумар адзін у Латвіі. Менавіта таму да сённяшняга дня яго работы ніколі не выстаўляліся на тэрыторыі Беларусі: для перасоўвання твораў мастакоў такога маштабу патрэбны спецыяльныя ўмовы, а гэта дастаткова дорага. Таксама яна патлумачыла, чаму ў Мінск прыехала менавіта "Вясна":

— Мы імкнуліся выбраць тую работу, якая найбольш ярка адлюстроўвае асаблівасці творчасці мастака. Ранняя вясна атрымлівалася ў Пурвітыса лепш за ўсё. У Латвійскім Нацыянальным мастацкім музеі можна паглядзець пастаянную экспазіцыю твораў Вільгельма Пурвітыса. Мне з яго работ больш за ўсё падабаюцца "Восень" і "Квітнеючыя яблыні".

Вільгельм Пурвітыс — выдатная асоба свайго часу, чалавек з вялікім аўтарытэтам у грамадстве, які быў і застаецца неразгаданай загадкай. Майстар пісаў прыроду Латвіі ў розныя часы сутак і года, але асабліва праславіўся як "псіхолаг" і "фізіёлаг" снегу. "Партрэт снегу" стварaўся мастаком на працягу ўсяго творчага жыцця. Ён выкарыстоўваў дзіўныя разнастайныя сродкі — ад стрыманага рэалізму да адкрытай экспрэсіі формы, колеру і фактуры. Мастак вучыўся ў іншых аўтараў і самой прыроды роднай зямлі, ён стварыў уласны почырк і толькі яму ўласцівую стылістыку гэтага "партрэта". Ужо пры жыцці Пурвітыс стаў знакамітым, не раз выйграваў міжнародныя стыпендыі, яго выстаўкі праходзілі ў Берліне, Вене і іншых еўрапейскіх гарадах. Мастак з'яўляецца заснавальнікам і рэктарам першай у гісторыі Латвіі Акадэміі мастацтваў у Рызе.



Аднак лёс творчай спадчыны Вільгельма Пурвітыса вельмі трагічны — лепшая частка яго работ загінула падчас Другой сусветнай вайны. У Латвійскім Нацыянальным мастацкім музеі можна пабачыць толькі каля сотні твораў.

Па ініцыятыве Латвійскага Нацыянальнага мастацкага музея і пры падтрымцы мецэнацкіх кампаній у студзені 2008 года была заснавана прэмія імя Пурвітыса: кожныя два гады эксперты і спецыяльнае журы прысуджаюць яе майстру, які зрабіў найбольшы ўнёсак у развіццё нацыянальнага мастацтва Латвіі.

З-пад пяра

➤ На пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у першым чытанні прыняты папраўкі ў закон, які датычыць народных промыслаў. Закон пра народнае мастацтва, народныя промыслы (рамёствы) у нашай краіне быў прыняты больш як 10 гадоў таму, але з тых часоў праваўжывальная практыка істотна змянілася. Прыняцце паправак шмат у чым палегчыць дзейнасць рамеснікаў і ў канчатковым выніку паспрые развіццю ў Беларусі ўязнога турызму. Дарэчы, гэты законапраект прапануе пашырыць кола тых, хто зможа займацца народнымі рамёствамі. Гаворка ідзе пра індывідуальных прадпрымальнікаў і арганізацыі народных промыслаў, якія заменяць адпаведныя прадпрыемствы. Пры гэтым для тых і другіх прадугледжана дзяржпадтрымка.

**Міра ІЎКОВІЧ**

➤ Днямі ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбыўся Міжнародны "круглы стол" "Сучасныя бібліятэкі: грані супрацоўніцтва". Партнёрства кніжніц з розных краін стала адной з асноўных тэм сустрэчы бібліятэкараў з Беларусі і Пскоўскай вобласці Расіі. Удзельнікі абмеркавалі доўгатэрміновыя праграмы развіцця сваіх устаноў, планы сумеснай дзейнасці, падзяліліся стратэгіямі работы з рознымі катэгорыямі чытачоў і паспяховага існавання ва ўмовах сучасных рэалій. Падчас "круглага стала" былі прэзентаваныя выданні РВУ "Выдавецкі дом "Звязда", а таксама біябібліяграфічны паказальнік "Аляксей Дудараў".

**Ала МІХАЛЬЧЫК**

➤ У рамках Года кнігі ў Гомелі праходзіць фестываль краязнаўчай кнігі і інфармацыі, прымеркаваны да Дня вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. За апошнія 10 гадоў у Гомелі, паводле дадзеных Нацыянальнай кніжнай палаты, убачыла свет больш як дзве тысячы выданняў. Сёлета тут выйшла больш як 300 кніг. Аднак далёка не ўсе з іх добра вядомыя. Фэст праводзіцца з мэтай папулярызацыі мясцовых выданняў, у тым ліку і перыядычных. Удзел у ім бяруць выдаўцы, літаратары, навукоўцы, педагогі, краязнаўцы, бібліятэкары, прадстаўнікі рэгіянальных СМІ. У бібліятэках пройдуць прэзентацыі новых кніг, выстаўкі друкаванай прадукцыі гомельскіх выдавецтваў і прэсы, сустрэчы чытачоў з мясцовымі аўтарамі.

**Раіса МАРЧУК**

➤ У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача адбылася дабрачынная акцыя Чэшскага Пасольства ў нашай краіне, групы "Солнечный круг" і Мінскага міжнароднага жаночага клуба жонак паслоў, дыпламатаў і замежных прадстаўнікоў у Рэспубліцы Беларусь. Для дзяцей-сірот і дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця было наладжана сапраўднае свята. Маленькія госці тэатра змаглі не толькі паласавацца смачнымі пачастункамі, але і паглядзець выстаўку арыгінальных фотаработ Станіслава Карбановіча, арганізаваную мастачкай Аксанай Аракчеевай. Разам з героямі спектакля "Брык і Шуся шукаюць лета" гледачы знайшлі новых сяброў, а тэатр пакідалі з добрым настроем і кніжкай-размалёўкай паводле спектакля ў падарунак.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Фотасакрэты Міхася Міцкевіча

Мастацкая галерэя Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея запрашае наведаць фотавыстаўку малодшага сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча, прымеркаваную да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі.

Аляксандра ВАСІЛЬЕВА, фота аўтара



Для сапраўдных знаўцаў творчасці Якуба Коласа не сакрэт, што Пухавіччына доўгі час заставалася адным з самых улюбёных месцаў адпачынку паэта і яго сям'і. Паселішчы Мар'іна Горка, Талька, Загібелька, Падбярэжжа, Вусце, Беразянка, Балачанка… Гэтыя мясціны не раз натхнялі Песняра на новыя творы, напаўнялі яго жыццёвай энергіяй. Тут ён напісаў паэму "Рыбакова хата", апавяданне "Між дзвюх рэчак", "Вусце", "Вусцянскі гурт".

Кожны лістапад прыносіць на Пухавіччыну не толькі дажджы і смугу, але і вялікую колькасць вершаў Якуба Коласа, якія чуваць у бібліятэках і школах раёна: так праходзяць "Каласавіны" — святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да дня народзін паэта. Гэта заўсёды прыемная культурніцкая падзея для раёна, бо менавіта такім часам Пухавіччына сустракае гасцей — вядомых пісьменнікаў і паэтаў. На святочныя чытанні завіталі такія майстры мастацкага слова, як Мікола Мятліцкі і Мікола Маляўка, Генрых Далідовіч, а таксама малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч з нявесткай Аляўцінай Цімафееўнай і ўнучкай Марыяй. Яны, а таксама дырэктар Пухавіцкага раённага музея Аляксандр Прановіч, прысутнічалі на ўрачыстым адкрыцці мемарыяльнай дошкі Песняру.

— Я лічу, што ў сучаснай Беларусі ў адносінах да Якуба Коласа нічога не змянілася, — адзначае Міхась Канстанцінавіч. — Аднак тэлебачанне вельмі адбівае моладзь ад кнігі. Трэба, каб перадавалі чытанні лепшых твораў, класічную музыку. Ёсць, канечне, такія каналы, але іх мала. Народнай песні таксама не чуваць, а яна павінна гучаць, як і творы найвыдатнейшых кампазітараў: Моцарта, Бетховена, Чайкоўскага. Павінны гучаць не толькі беларускія народныя песні, але і ўкраінскія, польскія, рускія рамансы, італьянскія, неапалітанскія песні… Гэтай музыкі няма, а ідзе непатрэбшчына, рэдка калі харошая песня прабіваецца. Аднак гэта ж выхаванне культуры чалавека, яго адчування прыгажосці. Вось гэта важна! І дасягнуць яго можна толькі ў эстэтычным развіцці чалавека праз мастацтва, дойлідства і літаратуру.

Сучасная Пухавіччына слынная не толькі "Каласавінамі": Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей ужо не адзін год прапануе экспазіцыю "Якуб Колас: прырода і людзі роднага краю", дзе можна бліжэй пазнаёміцца з асаблівасцямі жыцця творцы на гэтай зямлі: пабачыць фотаздымкі з сямейных архіваў, асабістыя рэчы.

Менавіта ў мастацкую галерэю Пухавіцкага раённага музея і прывёз сваю выстаўку Міхась Канстанцінавіч. Да 10 снежня ў кожнага ёсць унікальная магчымасць паглядзець на фотаздымкі, зробленыя сынам знакамітага паэта на зямлі, дзе адпачываў Якуб Колас.

— Выстаўка прымеркавана да 130-годдзя Якуба Коласа. Яе галоўная мэта — раскрыць вобраз паэта, паказаць яго бліжэйшае атачэнне, бо людзі цікавяцца, пытаюцца пра яго дзяцей, унукаў, чым яны займаюцца. А так паглядзяць на здымкі — адразу ўсё бачна. Магчыма, гэта фотавыстаўка не апошняя, — распавёў Міхась на адкрыцці.

Міхась Міцкевіч, навуковец у галіне апрацоўкі металаў, доктар тэхнічных навук, майстар спорту СССР па стэндавай стральбе, яшчэ ў дзяцінстве зацікавіўся фатаграфіяй:

— У сёмым класе я пайшоў у Палац піянераў — у гурток фотааматараў. Там атрымаў першыя парады і зрабіў першыя фатаграфіі. Тады ў мяне апарата не было, у старэйшых братоў пазычаў "Zeiss-Ikon", які бацька прывез з Парыжа. Больш ні на якія курсы не хадзіў, усё асвойваў сам. Перад вайной я зрабіў некалькі добрых фотаздымкаў, частка іх захавалася. У гэтым музеі ў зале з экспазіцыяй, прысвечанай Якубу Коласу, ёсць мой фотаздымак брата Юркі са стрэльбамі на спаборніцтвах. Здымаў і бацьку з маці, гэта 1941 год.

А вось пасля вайны, у 1945-м, я набыў "ФЭД" з добрым нямецкім аб'ектывам. Потым былі "Exakta", "Киев" з наборам оптыкі. Цяпер апараты ў мяне таксама ёсць, але больш з імі не працую. Дома сотні плёнак, нават не ўсе надрукаваныя, добрая калекцыя слайдаў. Цікавыя фотаздымкі з акадэмічных дэманстрацый, са спартыўных спаборніцтваў, дзе я ўдзельнічаў — усё гэта гісторыя. А яшчэ мне дзесьці ў 1960-м даручылі зрабіць фотаздымкі ўсіх супрацоўнікаў інстытута на прафсаюзныя білеты.

Ёсць у фотамайстра і свае сакрэты:

— Для партрэта лепш выкарыстоўваць чорна-белую плёнку — каляровая не так вызначае характар. На каляровых здымках павінна быць прырода.

# Вачыма часу, або Размова з мінулым…



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

Ёсць звесткі, што пасля дзейнасці ў шэрагах Грамады М. Машара спачатку выяўляў паланафільскую арыентацыю, сімпатызаваў ідэям Цэнтрасаюза з яго заснавальнікамі А. Луцкевічам і Р. Астроўскім, а затым зблізіўся з прадстаўнікамі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Відаць, адсюль і асаблівасці ўнутранай супярэчлівасці, пэўны налёт стыхійнасці эмацыянальна-пачуццёвага настрою і пафасу, эстэтычная няроўнасць творчасці паэта, за што яго крытыкавалі А. Салагуб, М. Танк, некаторыя іншыя прадстаўнікі радыкальна-рэвалюцыйнай ідэйна-мастацкай арыентацыі.

Шэраг твораў М. Машары 1930-х гадоў выявіў элегічныя матывы, характэрныя адзнакі медытатыўнага мыслення. Напрыклад, у вершы "Едзе шпарка там хтось па дарозе..." паэт імкнецца асэнсаваць праблему суадносін вечнага і часовага, далекасяжнага і хуткацечнага ў жыцці чалавека. А ў вершы "Тадую песні без адрыву..." ён задумваецца над тэмай паэта і паэзіі, намагаецца спазнаць асновы духоўна-мастацкага акту, тэхналогію нараджэння твора. У гэты час у творчасці М. Машары зараджаецца новы для яе струмень — гарадская тэматыка. Паэт звяртаецца таксама да лірычна-інтымнай тэмы (нізка вершаў "Ёй").

У 1930-я гады М. Машара выдаў паэмы "Вяселле" (1934), "Смерць Кастуся Каліноўскага" (1934) і "Матчына горка" (1936), а таксама "драматычны абразок у двух адслонах" "Вось тут і зразумей…" (1933), "сцэны з сялянскага жыцця" "Чорт з падпечча" (1936) і "драму ў трох актах з жыцця вясковай моладзі" "Лёгкі хлеб" (1936). У гэтых творах асэнсаванне грамадскіх і сацыяльна-бытавых праблем і супярэчнасцей спалучаецца са зваротам да нацыянальна-гістарычнага і фальклорнага матэрыялу. Напрыклад, паэма "Вяселле" цалкам прысвечана апісанню вясельнага абраду на вёсцы, які паўстае ў рамантычна-ідэалізаваным асвятленні. Яна ў характэрнай паслядоўнасці выяўляе сустрэчу сватоў жаніха, прыбіранне дружкамі нявесты і яе выкуп, нашчадную застольную бяседу ("Тут і жарты, і прамовы, Па-мужыцку, як вядома, — Бесталкова, ды вясёла".), спевы, танцы, пераезд вяселля да маладога і г. д.

У паэме "Смерць Кастуся Каліноўскага" раскрываюцца заключныя карціны паўстання 1863 — 1864 гадоў, абмалёўваецца турэмнае зняволенне Каліноўскага, яго цяжкі роздум у астрожнай камеры, "вайсковы суд". Каліноўскі паўстае ў творы М. Машары як цэльная, каларытная натура, буйная гістарычная асоба, яркі беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат. Ён перажывае, што не здолеў да канца абудзіць народ, падняць яго на барацьбу. Нацыянальны герой беларусаў цвёрда перакананы ў тым, што барацьбы за свабоду і справядлівасць не спыніць, праўда пераможа. Заклікае народ не гнуцца перад прыгнятальнікамі, каваць "новы лёс з сабою ў згодзе", абяцае дапамагаць барацьбітам за волю нават "з-за свету", будучы мёртвым.

Несумненна, ідэйна-мастацкі змест паэм "Вяселле", "Смерць Кастуся Каліноўскага" і "Матчына горка" садзейнічаў развіццю гістарычнай памяці шырокага чытача і ў цэлым яго духоўнанацыянальнай самасвядомасці, актывізацыі народна-патрыятычнага руху ў Заходняй Беларусі.

Пасля аб'яднання Беларусі ў верасні 1939 года М. Машара пэўны час працаваў загадчыкам аддзела народнай асветы Шаркоўшчынскага раёна. Ён удзельнічаў у рабоце Народнага сходу ў Беластоку, а таксама сесіі Вярхоўнага Савета СССР, на якой прымалася рашэнне аб уключэнні Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў склад Савецкага Саюза. Падчас вайны паэт працаваў у франтавым і партызанскім друку — у газетах "Звязда", "Савецкая Беларусь", "Партызанскае слова", на радыё, пісаў артыкулы, нарысы, фельетоны. Пасля вайны — у часопісе "Полымя", "Настаўніцкай газеце", "Калгаснай праўдзе". Выдаў зборнікі "Беларусі" (1944), "Праз навальніцы" (1948), "Урачыстасць" (1952) і інш., якія засведчылі паглыбленне яго ідэйна-мастацкага мыслення, рост творчага майстэрства. Творчасць М. Машары ўзбагацілася ў плане праблемна-тэматычнага зместу вершаў і паэм, а таксама мастацкастылявой палітры. Яна была скіравана да раскрыцця актуальных праблем жыцця грамадства, велічы і хараства духоўна-маральнага свету сучасніка і характарызавалася натуральнасцю перажыванняў лірычнага героя, напружаным эмацыянальна-пачуццёвым пафасам, светлай настраёвасцю.

Праўда, на многіх вершах паэта гэтага часу адчуваецца налёт ілюстрацыйнасці і дэкларацыйнасці, характэрнай рытарычнай зададзенасці. Ім не стае звычайнага мастацкага аналізу, індывідуальна-аўтарскага асэнсавання складаных і супярэчлівых працэсаў рэчаіснасці. Але тады гэтым грашылі многія беларускія і не толькі беларускія аўтары.

У 1960 — 1970-я гады М. Машара звяртаецца да жанру прозы. Яго пяру належаць раманы-хронікі "Крэсы змагаюцца" (1966), "Сонца за кратамі" (1968) і "Лукішкі" (1970), якія склалі трылогію, а таксама раманы "Ішоў дваццаты год" (1973), "І прыйдзе час…" (1975), кніга ўспамінаў "Старонкі летапісу" (1975).

Трылогія М. Машары носіць аўтабіяграфічны характар і ахоплівае падзеі 1920-х гадоў. Выкарыстоўваючы шматлікія гістарычныя дакументы, а таксама матэрыялы перыядычнага друку, пісьменнік адлюстроўвае рост духоўнай самасвядомасці народа Заходняй Беларусі, уздым яго сацыяльна-палітычнай і нацыянальна-патрыятычнай актыўнасці, развіццё ў "забраным краі" вызваленчага руху.

Раманы-хронікі М. Машары ахопліваюць падзеі, якія разгортваюцца пераважна на Шаркоўшчыне, а таксама ў Глыбокім і Вільні. Яны раскрываюцца ў канкрэтных гістарычных фактах і асобах. Цэнтральны герой трылогіі — Максім Шамрай — выяўляе галоўныя этапы жыццёвай біяграфіі самога пісьменніка, асаблівасці развіцця і пасталення яго як асобы, раскрыцця духоўна-маральнага свету, чалавечых якасцей. Гэта шчыры і сумленны беларус, мужны і самаадданы змагар за інтарэсы народа.

Трэба сказаць, трылогія вызначаецца вялікай колькасцю персанажаў — як рэальных гістарычных асоб, так і выдуманых. Яны абмалёўваюцца ў розных жыццёвых стасунках і грамадскіх абставінах, выяўляючы той ці іншы аспект заходнебеларускай рэчаіснасці.

Удалымі, па-мастацку пераканаўчымі ў трылогіі з'яўляюцца апісанні масавай забастоўкі рабочых, працы беларускіх паслоў у польскім сейме, цяжкіх астрожных будняў на Лукішках Максіма Шамрая, Сяргея Целіцы, Андрэя Рынды і іншых палітзняволеных, іх барацьбы з турэмнай адміністрацыяй, літаратурнага руху ў краі, супрацьстаяння розных ідэйна-мастацкіх пазіцый і напрамкаў і г.д.

Раманы-хронікі М. Машары вызначаюцца глыбокім і праўдзівым адлюстраваннем многіх грамадска-сацыяльных падзей і працэсаў, ёмістасцю карцін і малюнкаў, яскравымі вобразамі ўдзельнікаў народна-патрыятычнага руху. Яны выявілі складанасць і супярэчлівасць заходнебеларускіх грамадска-сацыяльных варункаў, канкрэтных чалавечых характараў і лёсаў.

Творчасць Міхася Машары — значная старонка ў гісторыі айчыннай літаратуры XX стагоддзя. Яна праўдзіва выявіла рост духоўнай самасвядомасці беларускага народа, раскрыла складаныя этапы яго развіцця і самасцвярджэння, адлюстравала важныя грамадска-сацыяльныя падзеі і пераўтварэнні.

# Уладзімір Бяразеў:

# «Мы дзелім пісьменнікаў толькі на таленавітых і бяздарных»

Чарговы госць "ЛіМ-гасцёўні" — Уладзімір Бяразеў, паэт, эсэіст, перакладчык, публіцыст, галоўны рэдактар вядомага расійскага літаратурнага часопіса "Сибирские огни". Часопіс заснаваны ў сакавіку 1922 года. За гэты час на яго старонках друкаваліся творцы, якія сталі вядомымі далёка за межамі Сібіры, у тым ліку і нашыя суайчыннікі. Да ўласнага 90-годдзя рэдакцыя падрыхтавала адметны зборнік "Поэты "Сибирских огней", які Уладзімір Аляксеевіч прэзентаваў нашай газеце.

**Тацццяна СІВЕЦ,**
**фота Кастуся Дробава**

**Уладзімір Бяразеў:** Гэта ўнікальнае выданне апошняга дзесяцігоддзя — тут сабраныя лепшыя паэты, якія на нашай планеце пішуць па-руску. І большасць з іх публікавалася ў "Сибирских огнях". Адараў, Алейнікаў, Анішчанка, Ахпашава… Яны пішуць на розных мовах, жывуць у розных краінах — ад Расіі да Амерыкі. І трэба разумець, што цэнтрам прыцягнення гэтых найвыдатнейшых творцаў стаў менавіта часопіс "Сибирские огни".

**Тацццяна Сівец:** Чаму?

**У. Б.:** Пытанне… Калі я заходзіў апошнім разам у рэдакцыю "Литературной газеты", мяне сустрэлі апладысментамі і воклічамі: "Да нас прыехаў галоўны рэдактар найлепшага ў Расіі літаратурнага часопіса!" Пры ўсёй сяброўскай іроніі, нешта ў гэтым ёсць. Чамусьці ў "Сибирские огни" сёння звяртаюцца паэты, якія жадаюць апублікавацца ў часопісе патрыятычнага, але не радыкальнага кшталту, не схільнага да маргінальнасці, які валодае шырынёй поглядаў і здольны аб'яднаць творцаў, што пішуць на рускай мове. Такая адкрытая пазіцыя "Сибирских огней" ідзе ад заснавання часопіса ў 1922 годзе як выдання, што яднае самыя розныя нацыянальныя і літаратурныя кірункі. Вось прыклад: выбітны паэт Павел Васільеў, родам з Казахстана, які першыя вершы друкаваў менавіта на старонках "Сибирских огней", дазваляў сабе "пасвіць" Горкага, што, зрэшты і вырашыла лёс Паўла Мікалаевіча — ён быў замучаны ва ўзросце 27 гадоў на Лубянцы. Шырыня яго поглядаў, якая з аднаго боку далучала яго да Ясеніна, а з другога — да Мандэльштама, дазволіла яму стварыць адну з самых геніяльных рускіх паэм свайго часу — "Песня о гибели казачьего войска" — а было Паўлу Васільеву на той час 20 гадоў! І традыцыя намі наследуецца: у адрозненне ад Масквы, падзеленай на лагеры "нашых" і "нянашых", мы дзелім пісьменнікаў толькі на таленавітых і бяздарных, як бы рэзка гэта ні гучала. Калі чалавек напісаў варты твор, не важна, якіх палітычных поглядаў ён трымаецца.

**Т. С.:** А як жа сучасная літаратурная моладзь, якая зазвычай імкнецца да змагання і разбурэння каштоўнасцей папярэднікаў?

**У. Б.:** Нас перш за ўсё цікавяць наступныя пакаленні пісьменнікаў, незалежна ад іх месцажыхарства і ўзросту. Так, вы ведаеце пра Алену Брава, якая ўжо некалькі разоў друкавалася ў "Сибирских огнях", а цяпер патрапіла ў лонг-ліст Талстоўскай прэміі. А ці чулі вы пра адну з самых папулярных аўтарак нашага часопіса, якая жыве ў Мінску? І па статыстыцы нашага сайта, і па меркаваннях чытачоў — яна лепшая. Я не пабаюся параўнаць яе талент апавядальніцы з Чэхаўскім…

**Т. С.:** Хто ж гэта?

**У. Б.:** Наталля Валністая. Мы яе адкрылі і ўжо другі раз друкуем, атрымліваем захопленыя водгукі. А казаецца, у Беларусі яе пакуль не ведаюць.

**Т. С.:** Чаму, як вам здаецца, гэтая аўтарка звярнулася менавіта ў "Сибирские огни"?

**У. Б.:** Напэўна, справа якраз у нашых традыцыях, у аўтарытэце.

**Т. С.:** Не насцярожвала тое, што Наталля з'яўляецца прадстаўніцай іншай літаратуры — са сваімі законамі і каштоўнасцямі?

**У. Б.:** Гэта нас ніколі не палохала! Тувінскія, бурацкія, мангольскія, казахскія творцы… Культура Сібіры ўся зніткавана з самых розных культурных пластоў. Леанід Мартынаў, магу працытаваць, пісаў: "Не упрекай сибиряка, что у него в кармане нож. Ведь он на русского похож, как барс похож на барсука…" Дарэчы, магу прадэманстраваць *(са смехам выцягвае з кішэні сцізорык)*. Сібірак — чалавек, які не глядзіць на людзей, як масквіч: маўляў, "понаехали тут", шкодзяць этнічнай карціне. Сібіры хопіць на ўсіх. І той, хто прыехаў у Новасібірск, ужо ў другім пакаленні робіцца рускім…



**Т. С.:** Аднак пры гэтым там цудоўна пачуваецца беларуская дыяспара…

**У. Б.:** І беларуская, і ўкраінская…

**Т. С.:** Ваша творчая, выдавецкая, журналісцкая дзейнасць дапамагае сёння ацаніць усю важнасць менавіта друкаванай кнігі?

**У. Б.:** Мы абмяркоўвалі гэтае пытанне з калегамі з "Литературной газеты" і прыйшлі да высновы, што значэнне Слова — як духоўнай, а не друкаванай з'явы — з часам будзе толькі ўзрастаць. І сёння гэта відавочна, бо канкурэнцыя, агрэсіўнае асяроддзе і бязлітасная тэхнакратычная цывілізацыя робіцца пагрозай да ўсяго, што мы называем культурай. Культура найперш звязаная з мовай. Руская мова напоўнена вялікай колькасцю культурніцкіх сэнсаў, а значыць, калі мы яе не захаваем, то праз пару пакаленняў загінем усе. Так, друкаванае слова, у пэўным сэнсе, памірае, яно пераходзіць у сеціва, у электронныя кнігі, але не памяншае свайго ўплыву на розумы і сэрцы людзей. У Вялікабрытаніі ў мінулым годзе 50 працэнтаў кніг выдадзена ў электронным выглядзе. У Амерыцы — ужо амаль чвэрць. "Newsweek", маладзейшы за "Сибирские огни" на дзесяць гадоў, з першага студзеня 2013 года перастае выходзіць на паперы. Гэта нам "званочак" — рыхтуйцеся… Але трэба памятаць, што сапраўдных творцаў вельмі мала, пра іх трэба клапаціцца, трэба ствараць умовы, каб гэтыя 10-20 чалавек змаглі перадаць свой досвед, тое, чаму нас з маімі аднагодкамі, напрыклад, навучылі 80-я гады.

**Т. С.:** Хто павінен ствараць гэтыя ўмовы: літаратурныя часопісы, пісьменніцкія саюзы?..

**У. Б.:** Самі, перш за ўсё. Мой сын і зяць, абодва сур'ёзныя праграмісты, заўжды кажуць, што трэба манетызаваць усе нашыя дасягненні, каб той мільён сто тысяч клікаў у месяц на нашым сайце ператварыць у эканамічныя здабыткі. Але і з боку дзяржавы, якая клапоціцца пра маральнае і духоўнае здароўе сваіх грамадзян, мусіць быць дапамога. Я думаю, што мы падышлі да таго парогу, калі ўсеагульнае разуменне ўжо ёсць, а значыць, творца павінен нарэшце стаць шаноўным і патрэбным.

**Т. С.:** Дык што, занесці пісьменніка ў "Чырвоную кнігу", як каштоўны вымiраючы від?

**У. Б.:** Ні ў якім разе! Ад эпічных часоў, ад сярэднявечча — апавядальнік, сказiцель быў самым паважаным членам грамадства…

**Т. С.:** Аднак з таго часу роля пісьменніка крыху памянялася, як і стаўленне да яго.

**У. Б.:** Калі я прыходзіў у літаратуру на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя, усё яшчэ было інакш. У 90-я пісьменніцтва выкраслілі са спіса прафесій. Гэта няправільна і шкодна. У творцы мусіць быць адметны сацыяльны статус і заслужаная аплата сваёй працы — без гэтага ніяк. Напісанне сапраўднага твора часам пагражае нават душэўнаму і фізічнаму здароўю.

**Т. С.:** Што дапамагае вам вызначыць твор, варты публікацыі?

**У. Б.:** Па вялікім рахунку, вартасць вызначае чытач. Акрамя таго, сённяшнія фантастычныя магчымасці, якія нам дае інтэрнэт, дазваляюць нам пастаянна адкрываць новыя імёны, атрымліваць водгукі на твор. Але галоўнае — гэта меркаванне прафесіянала. Проста і надзейна.

**Т. С.:** Што трэба беларускаму пісьменніку, каб надрукавацца ў "Сибирских огнях"?

**У. Б.:** Забыцца пра ўсе свае званні і адчуць, што стварыў тое, што будзе цікава ўсёй планеце!

---

*Даніна павагі*

# Ад полацкага прычала

**Валянцін ЛУКША**

## Над Белай Руссю...

*Над Белай Руссю —*
*Белы бусел*
*З даверам выпрастаў крыло.*
*А гэта значыць,*
*Белай Русі*
*Прасцяг ашчодраны святлом.*
*Над Белай Руссю —*
*Белы бусел*
*Ладуе спраўнае гняздо.*
*А гэта значыць,*
*Белай Русі*
*Жыць, нібы поўны песень дом.*
*Над Белай Руссю —*
*Белы бусел*
*Галубіць прагных птушанят.*
*А гэта значыць,*
*Белай Русі*
*Не ведаць чорных бур і страт.*
*Над Белай Руссю —*
*Белы бусел*
*З буслiхай ў вышыні нябёс.*
*А гэта значыць,*
*Белай Русі*
*Наканаваны шчасны лёс.*



## Да 75-годдзя Валянціна Лукшы

У маёй хатняй бібліятэцы ёсць кніга "Пяцьдзесят чатыры дарогі" пра беларускіх пісьменнікаў. Але дарагая яна мне не толькі зместам, а дарчым надпісам з пажаданнем "гойстрага пяра" і подпісам "Валянцін Лукша, Уладзімір Багдановіч". Кніга была падорана на маё дваццацігоддзе, і для маіх бацькоў і равеснікаў, якія сабраліся за сціплым сталом, найярчэйшай падзеяй было, што віншаваць мяне прыйшоў знакаміты паэт з сябрам.

Валянціна Лукшу ў Полацку і Наваполацку ведалі, здаецца, усе. Прыгожы, статны, з бархацістым пастаўленым голасам, прываблівай усмешкай, ён часта выступаў, ягоныя вершы гучалі на хвалях беларускага радыё, а славутая песня "Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны" была шлягерам тых гадоў. Многія памяталі яго як былога навучэнца ляснога тэхнікума, сакратара камітэта камсамола Нафтабуда, супрацоўніка полацкай газеты "Сцяг камунізму".

Лукша быў першым старшынёй літаб'яднання "Крыніцы" пры наваполацкай газеце "Хімік", і менавіта з яго падачы там былі апублікаваныя першыя мае вучнёўскія радкі.

Усё сваё жыццё Валянцін Антонавіч верна і аддана служыў паэзіі. У любы час пры любым надвор'і і настроі галоўным для яго была творчасць. І ў свае амаль семдзесят пяць (на жаль, ён не дажыў да гэтай даты) ён захоўваў гэту лебядзіную вернасць паэтычным радкам, роднай мове, сваім полацкім вытокам.

Яго брыганціны ад полацкага прычала, ад спрадвечных дзвінскіх хваляў паплылі ў вечнасць, а нам засталіся радкі паэта, думкі і пачуцці сябра і сучасніка.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Нетры і ваколіцы прыгожага пісьменства

## Беларускае літаратуразнаўства 2000-х

Той факт, што стратэгічнае бачанне перспектыў развіцця тэорыі літаратуры ў Беларусі супадае з вызначальнымі тэндэнцыямі разгортвання адпаведных даследаў у свеце, а галоўнае — мэтаскіраванае, паслядоўнае ўрэчаўленне гэтага бачання ў фундаментальных і прыкладных даследаваннях дазваляюць гаварыць пра нарастанне адмысловага "тэмпарытму" тэарэтыка-літаратурнага пошуку ў першае дзесяцігоддзе XXI ст.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

Панарамнае ўражанне пра пошукі ў галіне тэорыі літаратуры побач са згаданымі раней выданнямі дазваляюць скласці так званыя кафедральныя зборнікі навуковых прац, з ліку якіх вылучаюцца працы кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта "Актуальныя праблемы тэорыі літаратуры і фальклору" (2004, 2009), кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка "Сучасны літаратурны працэс: тэндэнцыі і праблемы развіцця" (2010), зборнікі навуковых артыкулаў, матэрыялаў канферэнцый, што рэгулярна выдаюцца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы: "Узаемадзеянне літаратур у сусветным літаратурным працэсе. Праблемы тэарэтычнай і гістарычнай паэтыкі" (2000), "Аўтар як праблема тэарэтычнай і гістарычнай паэтыкі" (2008) і інш.

Паводле іншай — "фенаменалагічнай" — логікі ў грунтоўных выданнях (навуковым рэдактарам якіх выступае М. Тычына) прадстаўляюся ў 2000-х плён працы аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі. Так, кніга "Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу" (2007) прысвечана вывучэнню "пераходнага перыяду" як сацыякультурнага і мастацкага феномена, тэарэтычнае асэнсаванне якога, на думку М. Тычыны, "прыкметна адстала ад рэальнага эстэтычнага жыцця" з-за зніжэння "агульнаметадалагічнага ўзроўню, якое ўзнікла ў выніку супрацьстаяння акадэмічнага літаратуразнаўства і агрэсіўнага невуцтва дылетантаў". Збалансаваць тэмпы развіцця літаратурнай практыкі і яе тэарэтычнага вывучэння дапамагаюць раздзелы "Мастацкая рэфлексія беларускай літаратуры як фактар актывізацыі творчых пошукаў", "Постмадэрнізм і актуальныя праблемы нацыянальнай літаратуры", "Жанчына ў соцыуме: гендэрны аспект (па творчасці беларускіх паэтэс пачатку XXI ст.)". Надзвычай арыгінальныя ў канцэптуальным і стылёвым сэнсе вынікі мела намаганне Л. Кісялёвай "выпрабаваць магчымасці сучасных метадаў на несучасным літаратурным матэрыяле" — актуалізаваць нетрадыцыйныя для айчыннага літаратуразнаўства падыходы і канцэпцыі дзеля даследавання беларускай гумарыстычнай літаратуры XIX — пачатку XX стст.

У кнізе "Чалавечае вымярэнне ў сучаснай беларускай літаратуры" (2010) увага аўтарскага калектыву канцэнтруецца на "сацыяльна-арыентаваным вывучэнні літаратурнага працэсу ў яго суадносінах з актуальнымі задачамі выпрацоўкі нацыянальных, ідэалагічных і эстэтычных каштоўнасцей". Імкненне асэнсоўваць мастацтва слова менавіта ў сістэме каардынат "філасофіі літаратуры" паслядоўна ўвасаблялася не толькі ў яшчэ адным калектыўным выданні "Міждысцыплінарныя даследаванні актуальных праблем тэорыі літаратуры" (2011), але і ў манаграфічных працах "Карані і крона: Фальклор і літаратура" (2003) М. Тычыны, "Паэтыка беларускай літаратуры XX стагоддзя: суб'ектна-аб'ектныя суадносіны" (2010) Я. Гарадніцкага, "Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы" (2006), "Чалавек постмадэрну ў сучаснай беларускай літаратуры" Г. Кісліцынай (2010).

Калі паспрабаваць паглядзець на корпус тэарэтыка-літаратурных прац, а таксама доследаў з выразным тэарэтычным складнікам у "частотным" аспекце (каб вызначыць, якія праблемы найчасцей аказваліся ў фокусе ўвагі беларускіх даследчыкаў у першае дзесяцігоддзе XXI ст.), становіцца відавочна: пошук з прыкладна аднолькавай інтэнсіўнасцю вёўся ў рэчышчах агульнай, апісальнай (аўтаразнаўчай) і гістарычнай паэтыкі. Варта мець на ўвазе, што ў літаратуразнаўчым дыскурсе 2000-х гэтыя кірункі паэтыкі, якія звычайна размяжоўваюцца ў тэарэтыка-літаратурных даведніках, выяўлялі выразную схільнасць да *дыфузіі праблемных палёў*. Гэта яскрава прасочваецца ў працах Т. Дасаевай "Паэтыка лірызму ў беларускай прозе" (2001), С. Ханені "Амплітуда мастацкасці: Умоўнасць у беларускай прозе канца XX ст." (2001), В. Шынкарэнкі "З верай у чалавечнасць: Адметнасці вобразна-паэтычнай сістэмы сучаснай беларускай літаратуры" (2001), В. Жураўлёва "Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана" (2004), Н. Ламекі "Мастацкі ўніверсум творцы" (2005); З. Драздовай "Мастацкія варыянты дыялагізму (на матэрыяле класічнай і сучаснай літаратуры)" (2010). Адметны метадалагічны "сінкрэтызм" у асэнсаванні праблем паэтыкі абумоўлівае арыгінальнасць даследавання І. Жука "Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання" (2003), дзе рэпрэзентуецца канцэпцыя метрадынамікі празаічнага выказвання, упершыню ў айчынным літаратуразнаўстве апісваецца механізм атрымання з дапамогай камп'ютарнай апрацоўкі тэксту метрычных аўтарскіх эталонаў, прадстаўляецца сістэма іх дынамічнага ўзаемадзеяння. Прычым каштоўнасць закладзенага ў гэтых эталонах "рытмічнага інстынкту" ўзважваецца навукоўцам на шалях, так бы мовіць, практычнага літаратуразнаўства — у аспекце дадатковых магчымасцей для аналізу асаблівасцей мастацкага стылю Я. Брыля, В. Быкава, М. Гарэцкага, І. Мележа, К. Чорнага.

> *Недааацэненасць у айчынным дыскурсе культурна-асветніцкага патэнцыялу так званага белетрызаванага літаратуразнаўства, а таксама літаратурнага краязнаўства ўжо на досвітку другога дзесяцігоддзя XXI ст. паўстае пралікам стратэгічнага кшталту.*

У праблемным полі агульнай паэтыкі найбольшую ўвагу ў 2000-х прыцягвала да сябе жанралогія. Прычым найчасцей даследаванні паэтычных, празаічных, драматургічных жанраў разгортваліся ў гэты час у генетычным і эвалюцыйным аспектах (працы У. Каялы "Станаўленне і развіццё жанру байкі" (2002), І. Штэйнера "Балада: генезіс, эвалюцыя, перспектывы жанру" (2003), В. Яцухны "Беларуская мафарматная драматургія XVI — першай паловы XX стст." (2004), Т. Грамадчанкі "Сучасны беларускі раман: дынаміка жанру" (2006) і інш.), радзей — у ракурсах параўнальна-тыпалагічным (манаграфіі Т. Дасаевай "Максім Гарэцкі і Янка Брыль: Тыпалогія малых жанраў" (2001), І. Штэйнера "De profundis clamavi: Смех і роспач у нацыянальнай мастацкай традыцыі" (2008)) і структурна-тыпалагічным (манаграфія В. Шынкарэнкі "Нястомных пошукаў дарога: Праблемы паэтыкі сучаснай беларускай гістарычнай прозы" (2002)).

На скрыжаванні апісальнай і гістарычнай паэтыкі побач з доследамі аўтаразнаўчага кшталту ("Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй" (2008) А. Івашчанкі, "Паэтыка твораў Кузьмы Чорнага" (2008) А. Мельнікавай) у першае дзесяцігоддзе XXI ст. былі спробы асэнсаваць некаторыя з'явы мастацкай славеснасці ў сінергетычным ключы — як складаныя сістэмы, здольныя да самаарганізацыі і самаразвіцця, асабліва цікавай у гэтым сэнсе падаецца манаграфія В. Стральцовай "Шлях да сябе: Сучасная аўтабіяграфічная проза як сістэма" (2002).

У якасці ж агульнай, "інтэгральнай" рысы пераважнай большасці айчынных паэталагічных даследаванняў апошняга часу паўстае відавочнае імкненне навукоўцаў спалучыць метадалагічныя магчымасці гісторыка-літаратурнага літаратуразнаўства, а таксама герменеўтычнага, фенаменалагічнага, структурна-функцыянальнага, сістэмнага аналізу — не толькі дзеля выяўлення сутнасных характарыстык той ці іншай з'явы альбо дзеля стварэння рэтраспектыўных мадэляў літаратурнага развіцця, але і дзеля мэт прагнастычных, звязаных з вызначэннем найбольш верагодных перспектыў развіцця нацыянальнай літаратуры ў інфармацыйным грамадстве.

> *У першае дзесяцігоддзе XXI ст. былі спробы асэнсаваць некаторыя з'явы мастацкай славеснасці ў сінергетычным ключы — як складаныя сістэмы, здольныя да самаарганізацыі і самаразвіцця.*

Калі ж браць пад увагу канкрэтныя і найбліжэйшыя наступствы для беларускага прыгожага пісьменства парадыгмальнага станаўлення інфармацыйнага грамадства, давядзецца прызнаць: недааацэненасць у айчынным дыскурсе культурна-асветніцкага патэнцыялу так званага белетрызаванага літаратуразнаўства, а таксама літаратурнага краязнаўства ўжо на досвітку другога дзесяцігоддзя XXI ст. паўстае пралікам стратэгічнага кшталту. Зрэшты, сітуацыю часткова ратавала актыўнасць старэйшага — даследчыцкага і пісьменніцкага — пакалення. Беларускае літаратуразнаўства 2000-х, дзе дамінавалі жанры манаграфіі і зборніка навуковых прац, было б відавочна "няпоўным" без кніг, жанравая і стылявая паліфанія якіх адмысловым чынам рэзаніруе з рознагалоссем літаратурнага жыцця. Так, у 2001 годзе пабачыла свет кніга Д. Бугаёва "Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны", у 2003 годзе — яго ж "Служэнне Беларусі", куды ўвайшлі праблемныя артыкулы і літаратурныя партрэты, эсэ і ўспаміны. Кнігу У. Казберука "Нашы вытокі: пошукі гісторыка-літаратурнай праўды" (2007) склалі эсэ, разважанні і палемічныя артыкулы. У зборніку прац В. Казловай "На скрыжаваннях лёсу" (2009), кнігах А. Русецкага "Лёсы. Людзі. Літаратура" (2008), У. Саламахі "Сусвет дабрыні" (2005) узважаная на шалях класічнага літаратуразнаўства ацэнка сучасных літаратурных з'яў, падзей, твораў арганічна спалучаецца з нязмушанасцю асобасных успамінаў, згадак, роздумаў… Менавіта прадстаўнікі старэйшага пакалення з насамрэч зайздроснай руплівасцю і натхнёнасцю цягам 2000-х імкнуліся завабіць чытачоў розных узростаў у поўныя нечаканасцей вандроўкі па Літаратуры і Культуры (кнігі Т. Шамякінай "Міфалогія і беларуская літаратура" (2008), А. Лойкі "Займальная літаратура" (2009)), абудзіць у іх азарт сапраўдных першапраходцаў па нетрах Філалогіі ("Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству" (2000), "На шляху да Парнаса: Даведнік маладога літаратара" (2003) В. Рагойшы).

Дзеля справядлівасці зазначым, што вынікі літаратурна-краязнаўчых росшукаў цягам першага дзесяцігоддзя XXI ст. прадстаўляліся шырэй — не толькі ў кніжных выданнях ("Вёрсты пройдзеных дарог" (2003) І. Яршова, В. Сідняковай; "Літаратурная Берасцейшчына: краязнаўчыя нарысы, партрэты, артыкулы" (2008) В. Ляшук, Г. Снітко; "Да кніжных скарбаў дакрануся...: нататкі бібліяфіла" (2011) М. Казлоўскага; "Сцежкамі Ігуменшчыны" (2008), "І марам волю дам: літаратурная карта Пухавіччыны" (2011) А. Карлюкевіча), але і на старонках перыёдыкі (артыкулы Б. Зубкоўскага, С. Макарэвіча, А. Марціновіча, С. Панізніка, А. Пяткевіча, В. Рагойшы, А. Русецкага, Д. Сімановіча, С. Чыгрына і інш.); прычым з другой паловы 2000-х прысутнасць краязнаўства на старонках перыядычных выданняў відавочна ўзрастае. Захопленасць літаратурна-краязнаўчымі росшукамі абсалютна натуральным чынам ператварае і апантаных падобным "скарбашукальніцтвам" даследчыкаў, і чытачоў у *радзімазнаўцаў*: менавіта пад назвай "Радзімазнаўства: Мясціны. Асобы" выйшла ў 2010 годзе кніга краязнаўчых нарысаў А. Карлюкевіча. Героямі шэрагу нарысаў сталі пісьменнікі (Я. Колас, Р. Ігнаценка, А. Мальдзіс і інш.) у стасунках са сваёй малой радзімай альбо мясцінамі, дзе яны пісалі, збіралі матэрыялы для кніг. Асобнай увагі вымагае праца над краязнаўчым даведнікам у трох кнігах "Літаратурныя мясціны Беларусі". Першую кнігу, дзе змешчаны матэрыялы па Брэсцкай, Віцебскай і Гомельскай абласцях, падрыхтавалі і выдалі Л. Кулажанка, А. Мальдзіс, С. Сачанка ў 2000 годзе. Праект (у наступныя гады А. Мальдзіс і Д. Крывашэй прадстаўлялі яго на старонках "Маладосці"), дзе фактаграфічная дакладнасць і скрупулёznасць спалучаюцца з энцыклапедычнай грунтоўнасцю і панарамнасцю, бадай, з самага пачатку выйшаў за межы ўласна краязнаўчага: ужо цяпер можна прадбачыць маштабнасць вынікаў працы па стварэнні не проста "літаратурнай карты" — сапраўднага *літаратурнага глобуса* Беларусі…

Нават панарамныя агледзіны літаратуразнаўчых варункаў і набыткаў першага дзесяцігоддзя XXI ст. даюць важкія падставы спадзявацца на кароткатэрміновасць "рэтардацыйных" працэсаў (з'яў запавольвання), што вызначалі ў гэты перыяд характар развіцця асобных сегментаў беларускага літаратуразнаўства. Так званыя нулявыя гады не сталіся для яго "пасіянарна-выбуховымі" ў сэнсе канцэптуальных ды метадалагічных адкрыццяў. Аднак памянёны вышэй рухпошук уласнай "ліючайся формы" не быў ні бязмэтным, ні безвыніковым.

На пачатку другога дзесяцігоддзя XXI ст. можна гаварыць не толькі пра навуковыя вынікі развіцця айчыннага літаратуразнаўства цягам 2000-х, якія, на наш погляд, звязаны перадусім з удасканаленнем традыцыйнага інструментарыю літаратуразнаўчага аналізу, а таксама з плённымі спробамі тэарэтычна засвоіць і апрабаваць на практыцы шэраг "інавацыйных" для беларускага літаратуразнаўчага дыскурсу ідэй, метадаў, падыходаў. Ужо цяпер акрэсліваецца культурная і сацыяльная выніковасць "упартай" працы даследчыкаў розных пакаленняў у гэты перыяд: праз кніжныя выданні і публікацыі ў перыёдыцы, цягам дыскусій на канферэнцыях, семінарах, "круглых сталах", у адукацыйным працэсе і падчас грамадскіх абмеркаванняў паслядоўна сцвярджалася ўнікальнасць, каштоўнасць, "канкурэнтаздольнасць" беларускай нацыянальнай літаратуры як феномена, пазачасава актуальнага (і для сучаснай сацыякультурнай парадыгмы, і для новай інфармацыйнай рэальнасці).

# На ланцугу

У сваім водгуку на новую кнігу Андрэя Федарэнкі “Ланцуг” вельмі хочацца абмінуць стадыю кананічных уводзін і пачаць гаворку па сутнасці тут жа — з парога.

**Наталля ПАХОМЧЫК**

Што мне ўбачылася ў гэтай кнізе?

Найперш — далейшы рух у бок крышталізацыі тэматычнага ядра — тэмы пісьменніка і літаратуры. Не ў сэнсе колькасці твораў “на тэму” (хаця менавіта аповесць “Пра пісьменніка” шмат у чым стала галоўным натхняльнікам нашых тэарэтычных “вывяржэнняў”), але — у больш выразных абрысах, якія з твора ў твор набывае няўлоўны каштоўнасны абсалют (служэнне Літаратуры). Яго наяўнасць, здаецца, шмат у чым уплывае на расстаноўку герояў, ідэйных акцэнтаў, саму логіку пабудовы аповеду. Уражанне такое: то прышчэпліваючы да пазіцыі пэўнага героя, то знарок “гуляючы” з ёй, носьбіт гэтага абсалюту — аўтар (тут і далей — выключна ў паэталагічным значэнні) — то набліжае, то аддаляе ад чытача свой голас як апошнюю сэнсавую інстанцыю.

Так, напрыклад, здаецца, што герой-літаратар Васіль (“Ланцуг”) валодае ў пэўным сэнсе прывілеяванай пазіцыяй-магнітам, паводле якой размяркоўваюцца астатнія ідэйныя акцэнты (“ёсць у іх за душою нешта такое, пра што Вінярскаму і не здагадацца, каля чаго ён не стаяў і блізка, і не пагарджаць яму імі трэба, а, самае разумнае, рабіць тое, што ён і робіць: слухаць, раскрыўшы рот, і старацца нешта зразумець”). Выразнае падпарадкаванне бачыцца ў сцэне “Мутнае вока”, дзе Васіль як былы пацыент галоўнага героя — урача Вінярскага — распавядае таму, як гэта, уласна, — быць яго пацыентам:

“... — Вось цяпер скажы мне: няўжо табе цяжка было даць мне таблетку дымедролу? Пазваніць да мяне на працу? Няўжо гэта так цяжка?

Вінярскі маўчаў, сядзеў як аглушаны. Усё, што гаварыў бялявы, была праўда, але Вінярскі не чакаў, што гэтую праўду можна так падаць.

— Прабач, Васіль!.. — ледзь выціснуў ён з сябе”.

Гэта, сапраўды, як апеляцыя да звышпазіцыі пісьменніка.

Знешне падобны ход з увядзеннем у сюжэтную канву “вучонага ці настаўніка” ў “Дзікім Лузе”: падчас памінак той выбухае гнеўным выступленнем пра здратаванне традыцый:

“...— Гаварыць трэба стрымана, ціхімі галасамі і толькі пра нябожчыка, — паглядзеў на гэты раз на Кулініча, — а не пра тых, з кім ён працаваў, не пра вянкі... Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына — каму гэта было сказана? Вам? <...>

— А ў рог? — спытаў Грыгор...”

Аднак, як бачым, тут гэта — ужо не “пазіцыя-магніт”. Уражанне такое, што *аўтар* пачынае гуляць у хованкі, дэманструючы на паверхні “ідэю”: вось, маўляў, уся справа ў традыцыях, трох стравах і каліне.

Адсюль — другая асаблівасць, якая заўважылася і на якой хочацца спыніцца асобна.

Па-вучонаму кажучы, далей будзе — пра наратыўную стратэгію. “Ланцуг”, “Пра пісьменніка”, “Салдат”, “З кошыкам”, “Дзікі Луг”, “У Крыме”, — чытаючы аповесці запар (так, менавіта яны і склалі новую кнігу), нельга не адчуць гэтую змену ў спосабе “агучвання” твора.

“Ланцуг” і “Салдат”, “У Крыме” — аповесці з адносна стабільнай падачай аповеду, калі ўзнікае тая ўпэўненасць чытача, якая дазваляе па ходзе расцягваць сам працэс чытання, “смакуючы” асобныя сэнсавыя згусткі — моцныя, дакладныя, з “жарствінкай”:

“<...> убіцца, уплішчыцца ў тралейбус, дабрацца да ларка, да таннага разбаўленага піва, “набухацца”, атупець яшчэ больш — гэта ў мужчын; у жанчын, растаўсцелых да сарака гадоў, як пацукі на кармавых дражджах, — дапасці да нейкай чаргі, адстаяць, пасварыцца, схапіць урэшце ў руку чаканую сінюю палку крухмальнай варанай каўбасы...” (“Ланцуг”)

“У Крыме” ж, нягледзячы на гэтую “трэцюю асобу адзіночнага ліку мужчынскага роду”, адчуваецца моцная повязь з “я”. “З кошыкам” — увогуле ўсё прыватна. Не даслухаць гэтую “Гісторыю ненапісанай аповесці” да канца, перапыніць чытанне, — гэта як перабіць суразмоўцу. Чуецца больш інтымны кантакт з аўтарскай пазіцыяй.

Больш складана з “Дзікім Лугам”: лічыць вышэйзгаданае выступленне “вучонага-настаўніка” за адкрытае ўмяшальніцтва аўтарскага голасу ніяк не выпадае — занадта густая іронія (згадалася, як гэтак жа — па-заліхвацку — нейтралізаваўся пафас гатовых *ідэй* у “Вёсцы”: “Запомні, я пастрадаў не за п’янства, а за “ідзею”! — Надзею? Якую? Што пошту носіць?..”). Далёкія яго водгаласы можна пачуць з таго боку, адкуль, уласна, цягне “тым, што пужае”. Але гэта не ўласна голас “таго, хто пужае” — гэта той, хто жахаецца:

“Вось так яно спрацавала, гэтае подлае, бязлітаснае, жорсткае да агіды правіла — а не забывайся, хто ты ў гэтым свеце, не любі моцна, не прывязвайся да каго б ні было, не прывыкай, будзь заўсёды напагатове, каб не заспела знянацку, умей абараняцца, трымай пра запас усе варыянты — аж да самага горшага... А забудзешся, расслабішся, захочаш пазіраць на гэты свет шырока раскрытымі васільковымі вачыма — дык мы напомнім!..”

Знарок пакінута апошняй у гэтым пераліку аповесць “Пра пісьменніка”... Складана. Пазіцыя аўтара тут настолькі няўлоўная, што ў пэўны момант падчас чытання ўзнікае ўражанне падмены ўласна роду літаратуры: нібыта разгортваецца драматычная дзея, рэмарак аўтара ўжо не чуецца. І самае цікавае, што тут аніяк не да месца камплімент кшталту “твор просіць сцэны”, не. Ці хіба толькі ў дачыненні да першай часткі — тонка-іранічнай, спакойнай у сваёй апавядальнай плыні з усімі рэтраспектыўнымі экскурсамі праз дзённік, успаміны галоўнага героя ў мінулае. Сцэны тут могуць прасіць дыялогі з Лідай — жывыя, “па-мележаўску густыя”:

“...Я, можа, Ліда, паміраць сюды прыехаў...

— А яшчэ куды? Ты мне тут трэба?! У яго сям’я, жонка, а ён прыехаў да мяне паміраць! Хто табе тут труну выпіша, ямку выкапае?!”

Але тое, што пачынаецца з другой часткі — гэта ж, пагадзіцеся, нечакана (хаця чаго ўжо: пісьменнік “Пра пісьменніка” — можна было псіхалагічна і падрыхтавацца). Тэкст раптоўна сам па сабе становіцца адным з самадастатковых герояў. Імітацыя “наіўна-самаўпэўненага” стылю літаратара-пачаткоўцы, з якім вядзе перапіску рэдактар (што ў сваю чаргу складае нібыта аўтаномную “повесць” пісьменніка з першай часткі, які таксама працаваў рэдактарам (гэта пры ўсім пры тым, што сам аўтар — рэдактар) становіцца адпраўным пунктам для бясконцага люстранога калідора шматузроўневага аповеду. Кампазіцыйна аповесць выбудавана нібы лабірынт. І калі ўжо здавалася, што ўсё — вось яно выйсце, вось адзін пункт гледжання, вось другі, і ты, чытач, здаецца, схапіў у жменю ўсе сюжэтныя ніткі — дык на табе! Частка ІІІ. “Чытачы”:

“Аднойчы яму патэлефанавалі і запрасілі ў бібліятэку на выступленне. Ён здуру згадзіўся. Здуру, бо якія цяпер чытачы і якія выступленні? Цяпер усе выдатна ведаюць, як жыць, навошта жыць, як пісаць і што чытаць, і самі любога навучаць...

1) Аўтар не баіцца, што хтосьці ў сваю чаргу разбярэ яго таксама?

Аказваецца, пакуль ты, чытач, поўзаў па гэтым лабірынце, за табой нястомна сачылі і загадзя пралічылі за цябе ўсё на тры хады наперад. І ты трапляеш у ланцуг, дзе “Пра пісьменніка” бачыцца прадуманым звяном “Рэвізіі”, іронія — папярэднім смехам з тваіх будучых чытацкіх “высноў”, а водгук твой — як даўно запраграмаваная і таму такая прадказальная рэакцыя. Акружылі. Кладу асадку. Брава!

# «Ці маем надзею ісці…»

**Тамара МАЗУР**

Новы паэтычны зборнік Браніслава Ермашкевіча называецца “Абярэг”. Абярэг — слова, якое настройвае на асцярогу і інтрыгу, на разгадку нечага таямнічага і жыццёва важнага.

І ўжо першы верш у гэтай кнізе пацвярджае такія спадзяванні:

*З Богам быў я заўжды,*
*Ён мяне навучыў гаварыць*
*Мовай маці, як след,*
*Ад слаты-нематы абярог.*

Мова маці і ёсць самы першы абярэг. Але ж, каб крочыць з ёю па жыцці ўпэўнена і лёгка, лірычнаму герою патрэбны настаўнікі. Менавіта ім Браніслаў Ермашкевіч адводзіць асобнае месца ў раздзеле “Зорнымі шляхамі песняроў”. Разам з аўтарам мы трапляем у мясціны, звязаныя з імёнамі нашых класікаў: Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі.

Наступны раздзел — “Мае Прынямонськія сцежкі” — прысвечаны роднай беларускай зямлі, яе гісторыі, спадчыне. Надзвычай удалыя, цёплыя радкі знаходзіць Браніслаў Ермашкевіч для любімага Гродна: *“Горад, Богам абраны для храмаў”*, і для Мірскага замка: *“За Мір зачэплена вясёлка / Дугою князя Радзівіла”*. Аўтар не забываецца падкрэсліць, што шлях пазнання роднага краю насамрэч не такі і лёгкі.

Пасля паэт пераходзіць ад грамадзянскай лірыкі да інтымнай — асмельваецца ўпусціць чытача ў святая святых: вяртае ў той час, калі ў шлях-дарогу яго праводзіла родная маці. Б. Ермашкевіч не пераказвае сваю біяграфію. Ён памятае, што абяцаў чытачу раскрыць сутнасць абярэгу. Мы ўжо зразумелі, што абярэг — гэта ўшанаванне асноў, закладзеных народнымі песнярамі. Ведаем, што не пражыць без роднай зямлі. Запомнілі, як важна блаславенне матулі. Што далей?

*Хоць на шляху сваім*
*не Млечным*
*Вялікага не дасягнуў,*
*Але нясу з сабой адвечна*
*Я мудрасць, праўду, плён,*
*вясну…*

Мудрасць, праўда, плён і вясна… І далей — што ні верш, то адкрыццё. У паэзіі Б. Ермашкевіча ёсць усё: тонкі лірызм, далікатная метафарычнасць, ёмістыя падагульненні, вялікі жыццёвы багаж. Яго вершы асабліва моцныя высновамі, спрэсаванымі, як правіла, у заключных радках. Напрыклад:

*…А ці маем надзею ісці,*
*Ці не топчам дарэмна траву?*

Завяршаецца паэтычны зборнік “Радком класічнага санета” — так называецца апошняя частка кнігі.

*…Радком класічнага санета*
*Напоўніцца душа творца.*
*Той музыцы няма канца,*
*Як і няма канца сусвету…*

Да гэтага цяжка што-небудзь дадаць. Абярэг Браніслава Ермашкевіча — у музыцы беларускага слова, якой жывіцца паэт і шчодра адорвае сваіх сяброў.

# Наталіць духоўную смагу

Напрыканцы 2011 года ўбачыла свет новая паэтычная кніга Івана Пехцерава “Земля меж речек Ипуть и Лобжанка”. Гэтыя рэчкі бяруць свой пачатак у вёсцы Недзведзь на Клімаўшчыне, якая нарадзіла і ўзрасціла паэта.

**Віктар АРЦЕМ’ЕЎ**

Тэматыка яго твораў вельмі шырокая і рознабаковая. У новай кнізе знойдзем радкі пра маці і бацьку, родную вёску і старое кладзішча, пра лес, сенакасць і хлебную ніву, пра каханне, дабро і зло. З кожным пражытым годам мацнее ў паэта повязь з малой радзімай:

*Мне всё на родине моей*
*С годами ближе и милей…*

Увогуле, у сваёй творчасці Іван Пехцераў ідзе ад глыбінных вытокаў жыцця і піша пра жыццё. Піша ярка, звонка і светла, піша з праўдзівым веданнем усіх працэсаў у грамадстве, піша ад чыстага сэрца і з натхненнем. Ён малюе словам рознакаляровыя карціны, якія напоўніцу наталяюць духоўную смагу чытача. Паэзія Івана Пехцерава патрыятычная. Абаронцам Айчыны прысвечаныя многія вершы і паэма “Салтановская баталия”.

Ёсць у зборніку рэлігійныя вершы. Найбольш уражваюць “Апостол Павел”, “Я у мальчишки у того учусь...”, “Жутко мне бывает одному...”, “Помпея”, “Ночь под Рождество”, “Перед иконой Милостивая”, “Размышления на кладбище”, а таксама паэма “Мстиславская Монастырщина”.

Паэма “Вечная боль” прысвечана сынам, унукам і будучым галінкам радавога дрэва паэта. Яна знаёміць чытача з яго малой радзімай, з вёскай Недзведзь і яе жыхарамі. Тут ёсць настальгія па даўно мінулых днях, але ж прабіваецца і ярка струменіцца праменьчык надзеі, што будзе квітнець малая радзіма.

У зборніку нямала светлых лірычных радкоў пра прыгажосць кахання. Ёсць у кнізе і філасофскі роздум, і гумарыстычныя, сатырычныя вершы.

Іван Пехцераў аўтабіяграфічны ў сваіх творах. Найбольш поўна ён раскрываецца ў вершы “Характер”:

*Я весь характером*
*в отцовский род,*
*Точней в отца —*
*Он шёл всегда вперёд…*

Творы Івана Пехцерава заўсёды прывабліваі чытача сваёй вобразнасцю. Аўтар умела карыстаецца рознымі мастацкімі сродкамі, пацвярджэнне гэтаму чытач знойдзе і ў новым зборніку.



Віктар ГАРДЗЕЙ

## Імпрэсіі блуднага сына

**1**

*Хай прысніцца мне з дзяцінства хата:*
*Сам у ёй паставіў лёс на кон.*
*Ноч брыдзе пад хмараю калматай —*
*Будзе доўгім і трывожным сон.*

*З хаты гэтай звабіў свет вакольны,*
*Дзе пакуты і журба кругом.*
*Боль прыціхлы паўтарацца здольны —*
*Надта гулкі апаўночы гром.*

*Прорва там, дзе хата віравала,*
*Ты ж сабе й слязінкі не дазволь.*
*Гром і дождж, і одуму навала —*
*Надта чуйны апаўночы боль.*

*Рух, аднак, у часе не паскорвай —*
*Не прайсці ля котлішча наўзбоч.*
*Сон падхопіць акурат над прорвай —*
*Будзе доўгай і трывожнай ноч.*

**2**

*Тут сад квітнеў, цяпер, як ёсць, стары,*
*На мыліцах-падпорках, быццам воін:*
*Заечыя пагрызы на кары,*
*Расколіны, шнары маразабоін.*

*Парваў дзядуля кужаль на бінты:*
*Загойвае пладовым дрэўцам раны.*
*Пагоды памяняюцца франты —*
*Нібы шпіталь наш сад забінтаваны.*

*Не апускай, садоўнік, рукавы:*
*Пруць пладажэркі і паўзуць іх клоны.*
*Містычны сад і сад пакуль жывы*
*Даніштаць разам частыя цыклоны.*

**3**

*Пара ссячы і шаткаваць капусту.*
*Ужо і вусеняў на лісцях не відно.*
*Матыль-бялян, спалохаўшыся хрусту,*
*Прапаў з вачэй, няйнакш “залёг на дно”.*

*Скаціўся ўміг качан-цвёрдагаловы:*
*У зазімках, нябога, не калей!*
*А першыя сняжынкі на Пакровы*
*За матыля-капусніка бялей.*

**4**

*Свавольнікам закончаным расту,*
*І мне цяпер у рэчах сэнсу мала:*
*Хачу ўявіць не проста пустату,*
*А тую, што наўрад ці існавала.*

*Цікава мне: адкуль быццё пайшло,*
*І літасць Боская, і веліч Духу?*
*Калі ствараўся свет, яшчэ нас не было,*
*На ўвесь абсяг — ні галасоў, ні руху.*

*Тут, у лясах, дзе ятрыцца слата,*
*Мой крок чуваць, запознена-таропкі.*
*Заплюшчу вочы — цемрадзь, пустата.*
*Сціскаецца Сусвет да мёртвай кропкі.*

*Напяты нервы. Я адзін — о, жах!*
*Звон у вушах. Ды раптам бляск і —*
*выбух.*
*Мой стогн пачулі совы на лаўжах.*
*Дождж пабуйнеў, сцякаючы па шыбах.*

*Вярнуўся рэчам сэнс, ды не прасцей*
*Мне зразумець: Тварэц ацэніць строга*
*Мой выклік абсалютнай пустаце,*
*Калі няма нікога і нічога.*

**5**

*Пасля завей з цяплом па балацінах*
*Вада бяжыць рацэ наперахоп.*
*Не слухайце вы ў гэты час крэціна:*
*“Пасля мяне, а хоць бы і патоп”.*

*Разліўшыся, вада да ачмурэння*
*Раве, шуміць, сваволіць на бягу.*
*Патоп мясцовага, бадай, значэння*
*Дае надзей і гоніць прэч тугу.*

**6**

*Ляцяць буслы, а ластаўкі ўдагон:*
*Вясновая гульня ў арла і рэшку.*
*Праз дзень, глядзіш, заселены франтон,*
*І верабей чырыкнуў у падстрэшку.*

*Да “жэўжыка” ў вяснянак недавер:*
*Залезе, гіцаль, будзе жыць нязваным.*
*Ды той хіцёр: “Дурных няма цяпер*
*Быць у гняздзе жыўцом замураваным!”*

*І верабей, зняслаўлены ўжо нейк,*
*І ластаўкі, а ў іх і роляў многа,*
*Гатовыя вясне сыграць рэмейк*
*Паводле мудрай прытчы Льва Талстога.*

**7**

*Блудны сын вяртаецца дадому,*
*Хоць чакае тут айчынны гнеў.*
*Дзе бадзяўся, не ўгадаць нікому:*
*Неслух у нягодах разумнеў.*

*Папярхнуўся комін за гарою*
*Аблачынкай белаю, як дым.*
*Блудны сын з бярозаю старою*
*Падуладны кольцам гадавым.*

*Нацянькі! — даўжэй укругавую.*
*Не саромся! — шлёпай басанож.*
*З поля бачна вёску векавую.*
*Дзе блукаў — паспавядайся ўсё ж.*

*Пэўна блага ды і сумна, браце,*
*Аднаму брысці праз цішыню —*
*Печышчу, як і прыснёнай хаце,*
*Памаліцца хоць бы ўпершыню!*



*Фота Кастуся Дробава*



Алёна ПАПКО

***

*Прывыкаю да новай пары…*
*Толькі зноўку шаную я лета,*
*І зялёныя ў промнях муры,*
*Дзе пяшчотай зямлі абагрэта.*

*Родны сэрцу сасновы лясок,*
*Пах духмяны калючай ігліцы.*
*Меладычны птушыны куток,*
*І малiннік заплёўся ў крыніцы!*

*Гэта сцежка падобна на лёс,*
*Бо табой сярод іншых абрана.*
*Родны сэрцу сасновы лясок…*
*І масток, як жыцця пераправа.*

***

*Гляджу ўслед… Задумна разумею:*
*Спляценні лёсаў не перахітрыць!*
*Таму лаўлю, як крохкую надзею,*
*Твой погляд, на які не варажыць.*

*Не да цябе прыводзілі сцяжынкі,*
*І не ў тваім каханні я люблю.*
*…А лёгкія акацыі крупінкі —*
*Бялютка так злятаюць на зямлю.*

*І паўстаюць, як вечнасць, прад вачыма*
*Пялёсткаў тысячы і гэты свет.*
*Душы тваёй жаданая адліга…*
*Знікае між дамамі сілуэт…*

***

*Не будзіць двойчы успамін*
*Ні шэры дзень, ні белы снег.*

*І досыць вымаўлена ўслых,*
*І досыць зроблена наспех.*

*Стамілася на паўшляху*
*Пад хмарным позіркам вачэй.*

*Імклівым зорам на зямлю*
*Глядзець стагоддзямі начэй.*

*І бачыць ў сне маю вясну —*
*Наўсцяж расчынена акно…*

*І ён — у цвеце вішняку.*
*…Калісьці гэта ўжо было.*

***

*І праляцяць каштоўныя хвіліны,*
*Як белы цвет ад леташніх лугоў.*
*Ды толькі ты не кліч у позні вырай:*
*Мне лепей між блакіту васількоў.*

*Чытаць жыццё сваё амаль на памяць,*
*Не баючыся здрады і бяды…*
*Як цяжка размяжоўваецца радасць,*
*І столькі веры ў кропельцы крыві!*

*Пакуль гарыць бяспечнае світанне,*
*І слёз вярбовых рэшткі — на далонь.*
*Застанься, непаўторнае каханне,*
*Нібы цяпло нябачных прамянёў.*

### Радзіме

*Басанож па духмяных пакосах,*
*І па сэрцы тваім — басанож,*
*Каб прамокнуць на ранішніх росах,*
*І ўваскрэснуць ад пыльных дарог.*
*Свет малы і бязмежна шырокі!*
*Сінь крыніц і ружовасць зары —*
*Мне твой голас зусім не далёкі,*
*А твой шлях — не ў гару, а з гары.*



Анатоль ЗЭКАЎ

***

*Калі з дажджамі і залевай*
*у восень адыходзіць лета*
*і замаўкаюць птушак спевы,*
*нібы ўсе песні імі спеты, —*

*тады і я сціхаю раптам,*
*за лета стомлены дарогай,*
*якая ў тым не вінавата,*
*што ўшчэнт*
*зняможыла мне ногі.*

### Грыбная восень

*Пад Лагойск альбо пад Ракаў*
*у грыбы паедзем.*
*Вось*
*толькі б дожджык не закрапаў*
*і не ўцёр пагодзе нос.*
*Касавурыць сонца вока.*
*Мо задумала што,*
*ці*
*спеліць дождж пад цёплым бокам,*
*каб самому не сваціць.*
*Дождж для нас — не перашкода.*
*Як-ніяк мы — грыбнікі.*
*Толькі ж хочацца пагоды,*
*а не дожджыку,*
*які*
*змочыць дрэвы,*
*змочыць травы,*
*што ў кусты не сунеш нос,*
*дзе налева і направа*
*грыб да грыба —*
*навырост.*
*Як казаў сусед мой Восіп:*
*“Быў бы правільны маршрут!”*

*На двары — грыбная восень,*
*і надвор’е — проста цуд.*

***

*У жоўтым лісці лістапада*
*пад самай небнай вышынёй*
*мне гэтак люба лета згадваць,*
*якое сёння не са мной,*
*якое быццам толькі ўчора*
*яшчэ, спякотнае, было,*
*пакуль не знікла дзесь за борам,*
*махнуўшы, нібы птах, крылом,*
*як бы сказаўшы, што не варта*
*па ім задужа сумаваць,*
*хіба што можна толькі згадваць*
*і лета новае чакаць.*

***

*У тую залатую восень*
*на нашы першыя спатканні*
*табе я кветак не прынасіў,*
*табе не кляўся я ў каханні.*

*Былі і кветкі, і прызнанні*
*пазней,*
*калі рыдаў ад злосці,*
*што не вярнуць таго кахання,*
*як не вярнуць і тую восень...*

***

*Здрадлівае жоўтае святло*
*верасьнёўска-паркавай лістоты*
*нада мной павісла, як на зло,*
*сімвалам раптоўнай адзіноты.*
*І той сімвал знікне ўжо наўрад.*
*Лёсы нашы — быццам бы на шалях.*
*Здрадліва блукае лістапад,*
*дзе нядаўна мы з табой блукалі.*

# Мінск — Беласток: масты супрацоўніцтва

Добрай нагодай для сустрэчы старых сяброў і абмеркавання актуальных пытанняў міжнароднага супрацоўніцтва стаў прыезд у нашу краіну вядомага беларускага гісторыка з Польшчы, прафесара Беластоцкага ўніверсітэта Антонія Мірановіча. Так, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пры падтрымцы Культурнага цэнтра Беларусі, які працуе пры Пасольстве нашай краіны ў Польшчы, прайшоў "круглы стол" па пытаннях вывучэння кніжнай культуры праваслаўнай царквы ў Беларусі, а таксама прэзентацыя новых выданняў Антонія Мірановіча.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Кнігі Антонія Мірановіча, доктара гістарычных навук, буйнога даследчыка беларуска-расійска-польскіх узаемасувязей, гісторыі праваслаўнай царквы ў Польшчы, Беларусі і Расіі, культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, у бібліятэках нашай краіны займаюць трывалую пазіцыю як адны з самых запатрабаваных. І гэта заканамерна, бо спадар Антоній не толькі аналізуе помнікі кніжнай культуры, але і ўводзіць у шырокі навуковы ўжытак новыя крыніцы, прадстаўляе новыя дакументы. Тым самым ён дае магчымасць іншым даследчыкам карыстацца імі і па-свойму іх інтэрпрэтаваць.

Праца па папулярызацыі праваслаўных кніг вядзецца і Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі сумесна з Выдавецтвам Беларускага Экзархата. Ужо пабачылі свет факсімільныя ўзнаўленні Слуцкага Евангелля, Жыція Еўфрасінні Полацкай, падрыхтавана да выдання і факсіміле Полацкага Евангелля XII ст. Больш шырокай вядомасці тэкстаў таксама спрыяе іх пераклад на сучасную беларускую мову. Апроч гэтага, паступова ствараецца корпус тэкстаў і назапашваецца матэрыялдлявывучэнняцаркоўнаславянскай мовы беларускай рэдакцыі.

За "круглым сталом" у Нацыянальнай бібліятэцы абмяркоўваліся розныя пытанні: неабходнасць актыўнага супрацоўніцтва з беларусамі, якія жывуць за мяжой, выданне новых гістарычных крыніц у факсімільным выглядзе, праца па папулярызацыі нашай гісторыі і культурнай спадчыны. Так, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў:

— Адна з нашых найважнейшых задач сёння — наладзіць супрацоўніцтва з беларусамі замежжа. Праца ў гэтым кірунку мае багаты патэнцыял, але мы яго мала выкарыстоўваем і толькі цяпер пачынаем пра гэта сур'ёзна гаварыць. На такі аспект міжнароднага ўзаемадзеяння скіравана і дзяржаўная палітыка нашай краіны. Ужо падрыхтаваны праект закона аб беларусах замежжа, распрацаваны і праект дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". Мы спадзяёмся, што калі гэтыя дакументы ў бліжэйшы час будуць прынятыя, то будзе сфарміравана трывалая платформа для актыўнага супрацоўніцтва. Атрыманне інфармацыі, абмен вопытам, рэалізацыя сумесных праектаў карысныя для абодвух бакоў.

Нашым суайчыннікам, якія цяпер жывуць і працуюць за мяжой, важна, каб іх архівы і літаратурная спадчына захоўваліся ў беларускіх зборах і музеях. Часам здаецца, што яны не такія каштоўныя, але і кнігі, і рукапісы з'яўляюцца сведкамі часу і праз гады ператворацца ў важныя гістарычныя дакументы. Гэтую думку ў сваім выступленні падкрэсліў прафесар Мірановіч. Спадар Антоній таксама дадаў:

— Для нас важна не толькі прэзентаваць свае працы тут, у Беларусі, мы хочам таксама бачыць, што наша прысутнасць, актыўнасць для вас таксама важная. Гэта дае нам стымул працаваць. Я частку свайго архіва перадаў у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, і многія мае калегі таксама жадаюць здзейсніць такі крок.

У грамадскай свядомасці праваслаўная царква і праваслаўная кніжнасць заўсёды асацыіруюцца з усходнім вектарам. Але адрэзкі часу, дзе Беларусь самастойная, у складзе СССР, Расійскай імперы непараўнальна малыя ў адносінах да існавання ў шматнацыянальнай, шматмоўнай і шматканфесійнай Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. На той час яшчэ не існавала Маскоўскага патрыярхату і Рускай Праваслаўнай Царквы, царкоўнае кіраванне было арганізавана інакш. Такое меркаванне дае трохі скажонае ўяўленне пра тое, чым ёсць праваслаўная царква на Беларусі. Кнігі Антонія Мірановіча выпраўляюць скажонае ўяўленне пра канфесійную і культурную палітыку ў Беларусі. Такую думку выказаў намеснік дырэктара па навуковай рабоце філіяла "Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі" Сяргей Гаранін і падкрэсліў і іншы істотны момант:

— Мы адчуваем, што крыніцы, якія знаходзяцца ў нашым выкарыстанні, ужо амаль вычарпалі свой рэсурс. Таму працы, якія ўключаюць новыя тэксты ці проста даюць на іх наводку даследчыкам, маюць неацэннае значэнне.

*Новы праект*

# І гульня, і навука

Інстытут імя Гётэ распачаў новы міжнародны праект па папулярызацыі нямецкай дзіцячай і юнацкай літаратуры, які мае назву ***LeWiS***. Гэта абрэвіятура трох нямецкіх слоў "Lesen", "Wissen", "Spaß" (чытаем, пазнаём, забаўляемся). Мэта праекта — спалучыць чытанне друкаваных кніг з тэхналогіямі "сусветнага павуціння". Яго ўдзельнікамі сталі краіны Усходняй Еўропы, Цэнтральнай Азіі і Паўднёвага Каўказа.

**Чэслава ПАЛУЯН**

Куфэркі з лагатыпам *LeWiS*, якія змяшчаюць спецыяльна складзеныя камплекты кніг, перададзены ўжо ў дзіцячаюнацкі аддзел Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, а таксама брэсцкія школы № 7 і № 20. Усяго ж у нашай краіне ўдзельнікамі праекта стануць каля 10 школ і бібліятэк.

— На першым этапе дзеці атрымаюць кнігі, якія трэба будзе прачытаць, затым наведаць спецыяльна распрацаваны інтэрнэт-партал, дзе прадстаўлены віктарыны з 20 пытанняў да кожнай кнігі, — распавядае кіраўнік інфармацыйна-бібліятэчнага аддзела Інстытута імя Гётэ ў Мінску Аляксандр Назарчук. — Пасля выканання заданняў вучням залічваецца пэўная колькасць балаў. На партале можна раздрукаваць сабе грамату або паспаборнічаць з аднакласнікамі ў колькасці прачытаных кніг, уважлівасці і глыбіні разумення твораў. Лепшыя чытачы атрымаюць прызы ад настаўнікаў нямецкай мовы ці бібліятэкараў: флэшкі і бірулькі-ліхтарыкі для ключоў з лагатыпам *LeWiS*.

Кожны куфэрак *LeWiS* змяшчае 53 кнігі сучасных нямецкіх аўтараў. Гэта 22 кнігі "лёгкага чытва" выдавецтва *Hueber*, распрацаваныя спецыяльна для тых, хто толькі пачынае вывучаць нямецкую мову, а таксама займальныя апавяданні разнастайнай тэматыкі, напісаныя жывой гутарковай мовай. Да кожнай кнігі прыкладаецца аўдыёдыск. Акрамя гэтага, у куфэрку знаходзіцца больш як 30 спецыяльна падабраных мастацкіх кніг для моладзі і дзяцей.

З цягам часу, на наступных этапах рэалізацыі праекта, яго праграма будзе дапоўнена разнастайнымі літаратурнымі мерапрыемствамі: чытаннямі, сустрэчамі з аўтарамі і мастакамі, конкурсамі.




*Такія куфэркі з кнігамі атрымаюць установы-ўдзельнікі праекта LeWiS.*

*У падтрымку чытання*



**Васіль Шаранговіч, скульптар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:**

## «"Новую зямлю" ў школе на памяць чытаў са сцэны»

Думаў, што, калі закончу працу як адміністратар, хопіць часу і на творчасць, і на ўсё астатняе. Аказваецца, часу стала яшчэ менш, чым было. Застаецца тое, што было з маладосці, — звычка заўсёды чытаць перад сном. Біблію так прачытаў. Гадзіну-паўтары кожны вечар. А днём неяк чытаць і не выпадае.

У мяне вялікая, каб не сказаць велізарная, бібліятэка — і па мастацтве, і мастацкая літаратура. Бацька казаў некалі, як мы перасяліліся ў вялікую кватэру, у якой усё вокамгненна аказалася застаўлена кніжкамі: "Калі ты гэта ўсё прачытаеш?" Канечне, я не прачытаю, але ж дзеці, унукі ёсць.

У розныя перыяды чытаў рознае і толькі мэтанакіравана. Талстога ад вокладкі да вокладкі, Дастаеўскага. Нават заняткі ў вучылішчы здаралася прапускаць — пачынаў нейкі раман з раніцы і завяршаў увечары. На маім чытацкім рахунку большая частка поўнага збору твораў Чэхава. Эміля Заля ўсяго не адолеў — у яго каля 40 раманаў, прыблізна 30 я прачытаў дакладна. З "Шагрэневай скуры" пачалося знаёмства з творчасцю Бальзака.

Паэзію люблю. Ясеніна знайшоў, яшчэ калі паэт быў забаронены. Чытаў дзяўчатам яго вершы. Ведаў на памяць "Новую зямлю" Якуба Коласа і ў школе дэкламаваў са сцэны.

У старэйшыя гады захапіўся Бібліяй і крытыкай на яе. А гэта вялікі аб'ём — даследаванні і інш. Трэба з гісторыяй пазнаёміцца. Яна пачала пісацца ў Вавілоне пры Навуходаносары. Калі чытаеш "Гісторыю" Герадота, трэба прачытаць яшчэ шмат літаратуры, каб дакладна ведаць карты таго часу: дзе былі філісцімляне, чаму Канстанцінопаль стаў Стамбулам і да т. п.

Самая апошняя тэматыка, па якой шукаў літаратуру, — падзелы Рэчы Паспалітай і ўсё, што з гэтым звязана: гісторыя, філасофія. Пэўны час займаўся нават вывучэннем аратарскага мастацтва. Але ніколі не прамінаў чытаць.

Сёння больш цікавіць беларуская літаратура. Караткевіч — мы з ім сябравалі. Шмат яго твораў ілюстраваў. Яшчэ — філасофская. І некаторыя пласты гісторыі, якія не зусім добра ведаю.

Аднойчы ў Італіі пачаў расказваць пра гісторыю гэтай краіны, там здзівіліся, што ведаю такое, чаго некаторыя італьянцы ніколі не чулі. А я дасканала вывучыў гісторыю Старажытнага Рыма.

# «Шлях» Анатоля Кузняцова

**Алесь СУХАДОЛАЎ**



*А. Кузняцоў "Парад планет 1".*

Апошняя вялікая выстаўка Анатоля Кузняцова ў Мінску праходзіла ў 1997 годзе. Пасля ён выстаўляўся ў Маскве і іншых гарадах свету. Аднак юбілейную, прысвечаную свайму 65-годдзю і 35-годдзю творчай дзейнасці, якая б падсумоўвала пройдзены ў мастацтве "шлях", ён вырашыў зладзіць на радзіме. На яе і запрашае да 2 снежня "Рэспубліканская мастацкая галерэя" аматараў абстрактнага жывапісу.

Самая ранняя з прадстаўленых на выстаўцы карцін датуецца 2005 годам, але дамінанту экспазіцыі складаюць творы двух апошніх гадоў, бо, як бы ні імкнулася абстрактнае мастацтва адарвацца ад зямных прывязак, творчасць А. Кузняцова нясе пазнаку свайго часу. У многіх работах апошняга часу адбіліся рытмы горада. Іх вялікі памер і кампазіцыя нагадваюць пра творчасць мастакоў графіці, тое самае можна сказаць пра ўвядзенне ў жывапісную тканку тэкставых элементаў.

Выстаўка А. Кузняцова можа называцца не "Шлях", а "Падарожжа", бо глядач здзяйсняе сапраўдную вандроўку ў Старажытны Егіпет, сярэднявечныя Кітай, Японію.

Увогуле, жывапіс А. Кузняцова можна разглядаць у ракурсе філасофіі нью-эйдж. Пераважаюць тут усходнія тэмы, іх інтэрпрэтацыі аўтарам на мове мастацтва заходняй цывілізацыі. Усход арганічна блізкі Анатолю Васільевічу, бо ён нарадзіўся на Усць-Камчацку на ўзбярэжжы Ціхага акіяна. Уражанні ранняга дзяцінства звязаны з прыродай Камчаткі, яе бязмежнымі воднымі прасторамі.

Няпростыя назвы яго работ — гульня, мастацтва тонкай стылізацыі, якое не павінна трактавацца адназначна: "Узаемадзеянне супярэчнасцей", "Рэчаіснасць адсутнасці", "Афарыстычныя парадоксы". Палатно "Рэчаіснасць адсутнасці" адлюстроўвае прынцып эйдэтычнага (ад слова "эйдас") бачання, калі мастак імкнецца перадаць вобраз адсутнага прадмета.

Што, як не сучаснае глабальнае мысленне, якое не ведае культурных межаў, натхніла А. Кузняцова на стварэнне работы "Памяці Курасавы"? Мастак здолеў сумясціць матыў сакавіцкай беларускай прыроды з уражаннямі ад творчай спадчыны вялікага японскага рэжысёра. На выяве пазнаюцца рудыя абрысы трыснягу на возеры, снег, што валіцца вялікімі камякамі, а разам з тым — іерогліфы, будынкі пагад, свіст самурайскіх мячоў. У цэлым, японскія матывы на падсвядомым узроўні часта ўзнікаюць у творах А. Кузняцова. Як ні парадаксальна, культура Краіны ўзыходзячага сонца блізкая беларускаму мастацтву. Хірасіма нагадвае пра Чарнобыль, да таго ж болем адгукаецца ў сэрцах Фукусіма.

У колеравай гаме работ з серыі "Метафары забытых ісцін" мастак вытрымлівае сфармуляваны Лао-цзы пастулат: "Пяць колераў прытупляюць зрок". Ён прымяняе толькі карычневы і ахраматычныя колеры, злёгку разбаўляючы іх сінім. Пра глыбокае разуменне ўсходняй філасофіі сведчыць таксама арганізацыя жывапіснай прасторы паводле законаў фэн-шуй. У аснове кампазіцыі многіх выяў ляжыць інвертаваная сіметрыя, а таксама кантраст цёмных і светлых плям.

Нягледзячы на тое, што А. Кузняцоў скончыў работу над цыклам "Метафары забытых ісцін", прысвечаным Лаа-цзы, у 2010 г., гэта серыя засталася незавершанай. Мастак прыйшоў да неабходнасці ўжывання кітайскага іерагліфічнага пісьма, бо кірылічная азбука не дае патрэбнага вобразнага адчування. Таму для далейшай працы яму патрэбна дапамога кітайскага каліграфіста.

Работы апошніх гадоў вельмі розныя, іх цяжка аб'яднаць у пэўны цыкл. Можна выдзеліць нізку "дзіцячых" палотнаў, у якіх майстар імкнецца наблізіцца да непасрэднасці светапогляду трохгадовага дзіцяці. Гэта, безумоўна, адносіцца да трыпціха "Парад планет". Белы фон гэтых кампазіцый нагадвае аркуш паперы, на якім звычайна дзіця крэмзае свае фантазіі. Мастака не бянтэжыць нанясенне кантрасных чорных ліній, яркіх каляровых плям — ён нібыта ўпершыню пабачыў фарбы і схапіўся за іх са шчырым дзіцячым захапленнем. А між тым гэта вельмі тонкае пераўвасабленне, якое сімвалізуе вызваленне ад усялякіх догмаў, адмаўленне ад мінулага досведу дзеля далейшага росту.

Супрацьлегласцю да "дзіцячай" серыі выступае трыпціх "Метафізічныя разважанні", які асацыюецца са сталасцю. Вывераныя прапорцыі малых і вялікіх колеравых мас, амаль сюррэалістычная цягучая і аморфная пластыка — усё гэта гаворыць пра прафесіяналізм і добрае валоданне законамі фармальнай кампазіцыі. Нездарма "дзіцячая" серыя з'явілася пазней за гэты трыпціх, нібы ўвасабляючы разрыў з ранейшымі канонамі.

Сэрца экспазіцыі ўтварае серыя вялікафарматных палотнаў апошняга года. У памерах работ, іх трывожным гучанні мастак нібы імкнецца выказаць нейкае глабальнае пасланне. На рабоце А. Кузняцова "Эвалюцыя стану" нібыта адлюстраваны землятрус, што адбыўся ў Японіі ў мінулым сакавіку і спраўакаваў моцнейшае цунамі і выбух на АЭС "Фукусіма 1". Найбольш цяжкія пачуцці выклікаюць дзве апошнія работы мастака, якія ён назваў "Непрадбачанае развіццё падзеі 1 і 2". З аднаго боку, яны найбольш экспрэсіўныя і ўдалыя з пункту гледжання цэласнасці кампазіцыі. З іншага — тут выявіўся не зусім характэрны для разважлівага і медытатыўнага А. Кузняцова дысгарманічны настрой.

Як адзначалася вышэй, для твораў А. Кузняцова апошняга часу характэрны драматычны настрой і аскетычная колеравая гама, прыкметна менш становіцца такой катэгорыі, як свята. У экспазіцыю выстаўкі "Шлях", на жаль, не патрапіла палатно "Дабравесце". Цёплае і гарманічнае, яно прыўносіць у творчасць мастака зусім іншы настрой — замілаванасці і лагоды. Ёсць у А. Кузняцова мара — напісаць беспрадметную ікону. Магчыма, гэтае цудоўнае памкненне стане новым этапам яго дастойнага шляху!

# Да рэпетыцыі, падчас і пасля яе

Аднойчы Усевалад Меерхольд сказаў знаёмаму мастаку: "Ты зрабі афармленне, а я для яго пастаўлю спектакль". Вось і на думку старшыні Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксея Дударава добрае афармленне — важны складнік любога спектакля. Бывае, для таго, каб зрабіць пастаноўку, адхіляецца каля дзесяці прапаноў — каб адабраць адну, тую, якая і стане натуральным фонам спектакля.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Менавіта з мэтай прачыніць тэатральнае закулісе і паказаць напрацоўкі, якія ёсць, у Музеі гісторыі кіно — філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі — разгарнулася выстаўка работ тэатральных мастакоў "Вынікі сезона 2011 — 2012".

Мастакі-сцэнографы — людзі, якія ведаюць пра тэатр усё і ствараюць яго. Сваё бачанне будучай дзеі адным з першых выказвае менавіта чалавек з нататнікам ды алоўкам у руках. Дзякуючы эскізам касцюмаў, дэкарацыям яны расказваюць пра спектакль нават у сценах музея. Работы адлюстроўваюць развіццё тэатральнага мастацтва. Прычым, калі графік і жывапісец працуе зазвычай сам-насам з палатном, то мастак тэатра павінен быць у храме Мельпамены "да рэпетыцыі, падчас рэпетыцыі і пасля яе".

Здзіўленне, радасць і адначасова лёгкую засмучанасць ад таго, што ў афармленні цяпер удзельнічае шмат маладых дзяўчат (якія між тым паказваюць цуды афармлення), выказаў народны артыст Беларусі Барыс Луцэнка. У макетах, якія выстаўляліся ў экспазіцыі, прадстаўлена светабачанне і сталых, і маладых мастакоў тэатра: Дар'і Волкавай (макет да спектакля "Кот у ботах", Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача), Вольгі Грыцаевай (касцюмы і макет да спектакля "Песні ваўка" Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа), Марыны Шусты (эскізы касцюмаў да спектакля "Турандот" Сучаснага мастацкага тэатра), Алесі Сарокінай (макет да спектакля "Гора ад розуму"). Выстаўлены таксама макет і эскізы касцюмаў да спектакля "Пан міністар" (Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача) Віктара Цімафеева, эскізы і макеты Уладзіміра Чарнышова, Валерыя Рачкоўскага ды іншых. У мастакоў шмат цікавых ідэй, што выклікала прапанову: сабрацца на адной канферэнцыі мастакам супольна з рэжысёрамі. Дырэктар музея Зінаіда Кучар разам з галоўным захавальнікам фондаў, прайшоўшыся па выстаўцы "Вынікі сезона", якая прымеркавана да II Нацыянальнай тэатральнай прэміі, вызначылі, якія работы хацелі б мець у сваіх фондах.

Але тэатр жыве, радуе і здзіўляе гледача штодня. Нядаўна супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры вазілі ў Славакію выстаўку работ заснавальніка беларускай сцэнаграфіі Аскара Марыкса (у сценах музея захоўваецца больш як 300 яго сцэнаграфічных твораў). Выстаўка мела выключны поспех, адзін з заможных наведвальнікаў нават прапанаваў купіць усю калекцыю: яшчэ адна нагода парадавацца за беларускую сцэнаграфію.

# Генератар будучыні

У Мемарыяльным музеі-майстэрні З. І. Азгура прайшоў II Мінскі архітэктурны форум "Музей-трансформер", ініцыяваны Беларускай асацыяцыяй студэнтаў-архітэктараў. На працягу тыдня маладыя архітэктары распрацоўвалі праекты Беларускага цэнтра скульптуры, які будзе створаны на базе Мемарыяльнага музея-майстэрні З. І. Азгура. Пра форум і яго дасягненні распавёў Дзмітрый Бібікаў, адзін з арганізатараў форуму, студэнт пятага курса архітэктурнага факультэта БНТУ:

— У студэнцкага форуму галоўная мэта — адукацыйная. Мы знаёмім людзей з інтэнсіўнай творчай групавой работай у так званых воркшопах. Такой групай кіруе куратар — цьютар, які арганізоўвае працу ўдзельнікаў, прапаноўвае пэўныя методыкі, кантралюе вынікі і форму падачы матэрыялаў. Калі вучоба ва ўніверсітэце накіравана на засваенне матэрыялу, то праз воркшопы мы вучымся вучыцца, выдзяляць праблемнае поле і вырашаць пастаўленыя пытанні. Пасля такой практыкі пачынаеш больш пільна ўглядацца ў праблему, якой займаешся, адчуваеш сябе больш вольна ў праектаванні.

Таксама пры дапамозе форуму мы можам звярнуць увагу на праблемы гарадскога асяроддзя, папулярызаваць пэўныя сучасныя архітэктурныя ідэі.

На Другім форуме мы прадугледзелі міждысцыплінарны падыход, тым самым спрабуючы выйсці за межы прафесійнай герметычнасці: архітэктар пры планаванні пэўнага праекта сутыкаецца з усімі сферамі жыцця, аднак вельмі яму не хапае кампетэнцыі. Запрасілі ў якасці лектараў спецыялістаў па ўсіх сумежных з архітэктурай сферах: сацыёлагаў, мастацтвазнаўцаў, філосафаў. Звяртаем увагу і на больш рацыянальную частку, напрыклад, бізнес.

Асабліва цікава было працаваць у музеі-майстэрні З. І. Азгура. Тут асаблівая творчая атмасфера. Тым больш, у музеі даўно мараць пра пашырэнне плошчаў, бо ў ім не толькі экспануюцца скульптуры Азгура — гэта вельмі складаны арганізм, кожны тыдзень на яго тэрыторыі праходзяць цікавыя лекцыі, тэатральныя і музычныя імпрэзы, сустрэчы са скульптарамі і архітэктарамі.

У сваіх праектах мы спрабавалі стварыць вобраз сучаснага музея, дзе мастацтва не толькі экспануецца, але і генерыруецца. Паколькі ў Беларусі такога музея пакуль няма, арыентаваліся на асабістыя ўяўленні. Наўрад ці можна разлічваць на ажыццяўленне ўсіх прадстаўленых на форуме праектаў, але мы паспрабавалі распрацаваць канцэпцыю развіцця музея, на аснове якой можна стварыць адзін паўнавартасны архітэктурны праект. Прэзентацыі праектаў можна пабачыць у Мемарыяльным музеі-майстэрні З. І. Азгура, у памяшканні БНТУ.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ**

# Брэнд і трэнд

Нацыянальная тэатральная прэмія — не толькі працэс вызначэння пераможцаў і ўганаравання лепшых, але і своеасаблівы зрэз сучаснай сітуацыі ў мастацтве. У якім кірунку рухаецца айчынны тэатр? Якія мае дасягненні? Дзе шукаць вырашэнне праблем? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

## НАВОШТА НАМ ПРЭМІЯ?

Пры распрацоўцы канцэпцыі Нацыянальнай прэміі тэатральная грамадскасць шмат у чым арыентавалася на прыклад "Залатой маскі" — тэатральнага брэнда Расіі. Там спектаклі-пераможцы вызначаюць далейшыя кірункі развіцця мастацтва. За рэжысёрамі, сцэнографамі, харэографамі, што маюць "маскі", усчынаецца сапраўднае "паляванне". Іх запрашэнне ў пэўны калектыў — сакрэт поспеху, гарант аншлагу і прыстойнага мастацкага выніку. Акрамя таго, шматлікія праграмы (кшталту "Залатая маска ў Беларусі") прэзентуюць спектаклі намінантаў і пераможцаў у іншых краінах.

Таму з'яўленне Нацыянальнай прэміі, безумоўна, прагрэсіўнае рашэнне. Недахоп вопыту абумовіў асобныя спрэчныя рашэнні І прэміі, якія сёлета былі выпраўлены. Напрыклад, у параўнанні з мінулым годам былі ўведзены намінацыі "Лепшы спектакль тэатра лялек", "Лепшы спектакль для дзяцей" і "Лепшая работа харэографа-пастаноўшчыка". Дагэтуль дзіцячыя спектаклі спаборнічалі з дарослымі, а лялечныя — з драматычнымі і опернымі. Сярод станоўчых рыс тэатральнай прэміі — магчымасць для мінчукоў убачыць пастаноўкі рэгіянальных калектываў. Не будзем забывацца, што атрыманыя ўзнагароды ўскосна спрыяюць большай цікавасці да спектакляў ("пайду пагляджу, хто перамог").

## ПА ДАРОЗЕ ДА ФІНАЛУ

Конкурсны паказ і фінальная цырымонія, — толькі вяршыня айсберга. Ім папярэднічаў адбор, які пакінуў пэўныя пытанні.

Першым этапам стала вылучэнне 39 спектакляў, што былі пастаўлены ў 2010 — 2012 гадах. Другім — адбор спектакляў. Спярша праглядаліся відэаверсіі. Потым члены камісіі наведвалі тэатры і аналізавалі пастаноўкі на іх сталых пляцоўках.

Мастацкая рада некаторых калектываў прапанавала для разгляду адну пастаноўку, некаторых — дзве. У савецкія часы роля рады была высокай. Слабы спектакль мог нават не дайсці да гледача. Цяпер гэты орган атрымаў функцыі дарадчага, на якім вядзе рэй мастацкі кіраўнік.

У выніку атрымалася некалькі нестыковак. Па-першае, пытанні выклікала працэдура выбару спектакляў. З 16 пастановак, што выйшлі ў фінал прэміі, 10 здзейснена менавіта мастацкімі кіраўнікамі (К. Аверкава ўжо сышла з Магілёўскага тэатра, але на момант прэм'еры ўзначальвала яго). Магчыма, больш лагічна было б даручыць крытыкам разглядаць усе спектаклі, пастаўленыя за пэўны перыяд.

Па-другое, не зусім зразумелы шырокі часавы дыяпазон прэм'ер. Нагадаю, мінулагодняя пераможцы, оперны спектакль "Набука" і драматычны "Не мой", былі пастаўлены ў 2010-м. То бок, вынікі за той час ужо падведзены. Ды як успрымаць 8 пастановак, ажыццёўленых у той жа перыяд? Як школьнікаў, якім дазволілі застацца на другі год? А як быць з шасцю прэм'ерамі, што адбыліся сёлета? Але ж на наступную прэмію будуць таксама прэтэндаваць прэм'еры 2012 года! На мой погляд, варта ўсё ж вызначыць пэўныя часавыя рамкі і прытрымлівацца іх у далейшым.

Па-трэцяе, тэатральная грамадскасць ведала толькі спектаклі-намінанты. А вось асобы, што вылучаліся на персанальныя прэміі, нідзе не агучваліся. Між тым, расіяне вылучаюць на кожную "Залатую маску" (кшталту "Лепшая жаночая роля") некалькі намінантаў (напрыклад, пяць актрыс), а не спектаклі, у якіх яны сыгралі. Бо на ІІ Нацыянальнай прэміі моцныя вобразы выканаўцаў або ўдалая праца кагосьці з пастановачнай групы мелі месца ў дастаткова слабых спектаклях. Дык навошта ствараць ілюзію, што апошнія вылучаюцца на прэмію?

Сёлета ў фінал выйшла 16 спектакляў. Іх прагляд дазволіў вылучыць некалькі блокаў: на мой погляд, пастаноўкі ў іх аб'яднаныя агульнымі задачамі, мастацкімі прынцыпамі і канчатковым вынікам.



Сцэна са спектакля "Чароўны пэндзаль".

## МАСТАЦКІ ВЫНІК — ЦІ КАСА?

Калі крытыкі скептычна ставяцца да касавых спектакляў, гэта часцей за ўсё выклікае абурэнне шырокай аўдыторыі. Каб расставіць кропкі над "і", дазволю сабе нагадаць, што паміж масавай і элітарнай культурай існуюць прынцыповыя адрозненні. Масавая мусіць спрыяць адпачынку і добраму баўленню часу. Элітарная — развіваць мастацтва і прымушаць думаць.

Менавіта таму выклікае шчырае здзіўленне прысутнасць у конкурснай праграме дзвюх катэгорый спектакляў. З аднаго боку, абсалютна забаўляльных пастановак — кшталту "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" Купалаўскага тэатра, "Фігара.tut" Сучаснага мастацкага тэатра, "Сродак Макропуласа" Тэатра-студыі кінаакцёра і "Бяда ад пяшчотнага сэрца" Тэатра беларускай арміі. З другога боку, такіх сентыментальных пастановак, як "Леаніды не вернуцца да зямлі" Віцебскага аблдрамтэатра і "Страцім-Лебедзь" Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі з Бабруйска, што прымушаюць перажываць за лёсы Андрэя Грынкевіча і Максіма Багдановіча. Амаль усе пералічаныя спектаклі глядзяцца на адным дыханні, прымушаюць сачыць за сюжэтам і суперажываць героям. Але калі спытаць, ці адкрываюць яны штосьці новае ў мастацтве, адказ, на жаль, будзе адмоўным.



Сцэна са спектакля "Раскіданае гняздо".

## КАЗКА ПРА ЗГУБЛЕНЫ ЧАС

Як вядома, тэатральнае мастацтва прывязана да канкрэтнай эпохі, адлюстроўвае і ўвасабляе яе, а пасля часцей за ўсё становіцца старонкай гісторыі разам з канкрэтнымі выканаўцамі і рэжысёрамі. У свой час беларускія драматычныя калектывы мелі высокі прафесійны аўтарытэт у Савецкім Саюзе. У другой палове 1980-х гадоў у Беларусі ўзнікла некалькі дзясяткаў тэатраў-студый, якія імкнуліся стаць альтэрнатывай рэпертуарным калектывам. У апошнія таксама пачалі трапляць новыя павевы. Аднак шэраг фактараў, перш за ўсё фінансавых, прывёў да паступовага згортвання студыйнага руху. У выніку айчынны драматычны тэатр за апошнiя дзесяцігоддзе ажыцявіў, па сутнасці, рух па крузе, вярнуўшыся ў 80-я гады.

Не буду спрачацца: рэжысёры, якім уласцівы адпаведны падыход, на інтуітыўным узроўні адчулі, якія спектаклі патрэбныя шырокай беларускай публіцы і нават прадстаўнікам айчыннай тэатральнай эліты. Нездарма адзін з найбольш тыповых спектакляў такога кшталту — "Не мой" А. Гарцуева — атрымаў амаль абсалютную перамогу на І Нацыянальнай прэміі. Менавіта да стылю 1980-х гадоў можна аднесці "Вар'яцкі дзень, альбо Жаніцьба Фігаро" Гомельскага аблдрамтэатра, "Пан міністар" ТЮГа, "Раскіданае гняздо" Брэсцкага аблдрамтэатра і "Гора ад розуму" Рускага тэатра. Гледача, які мае магчымасць спажываць толькі айчынны прадукт, яны сапраўды здзіўляюць. Але той, хто бачыў спектаклі фестываляў "Панарама", "ТэАРТ" ці "M.@rt.кантакт", згодзіцца, што сусветны тэатр (як еўрапейскі, так і расійскі) у сваім развіцці сышоў далёка наперад.

## "ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНА"

Варта сказаць колькі слоў пра тры спектаклі, што склалі своеасаблівую "залатую сярэдзіну". Гэта "Прынцэса і Свінапас" віцебскага тэатра "Лялька", "Аднакласнікі" Магілёўскага аблдрамтэатра і "Аіда" НАВТ оперы і балета.

Першая пастаноўка аказалася дастаткова традыцыйнай, але пасля яе засталіся прыемныя згадкі. Яе без ваганняў можа рэкамендаваць для прагляду дзецям. "Аіда" вырашана ў стылі "вялікай оперы" і пакінула надзвычай моцнае ўражанне. Хоць, на маю думку, на яе ўспрыманне ў пэўнай ступені паўплываў эфект адсутнасці іншых музычных спектакляў і… музыка Вердзі.

Што да "Аднакласнікаў", пастаўленых К. Аверкавай, дык уражанне ад іх прагляду найбольш супярэчлівае. Відавочныя сентыментальнасць і стаўка на эмоцыі. Але прываблівае зварот да сучаснай айчыннай драматургіі (п'еса Ю. Чарняўскай), актуальнасць і вастрыня ў пастаноўцы праблемы (адзінота чалавека ў камп'ютарным свеце; стаўленне грамадства да хворых — адзін з герояў пакутуе на аўтызм). Годнымі атрымаліся вобразы Міці і асабліва Марты, якія задумваліся як героі другога плана, але фактычна выйшлі на першы. Казаць пра безумоўны поспех будзе занадта смела, пра няўдачу — не выпадае.

## У ЧАКАННІ ТРЭЦЯЙ ПРЭМІІ

На маю думку, лепшымі спектаклямі, паказанымі падчас Нацыянальнай тэатральнай прэміі, сталі тры лялечныя пастаноўкі: магілёўскі "Чароўны пэндзаль" (рэжысёр І. Казакоў), мінскае "Вянчанне" (рэжысёр А. Янушкевіч) і гродзенская "Пікавая дама" (рэжысёр А. Жугжда). У кожнай — свае вартасці.

Першую, разлічаную на дзіцячую аўдыторыю, і назваў бы нават лялечным мюзіклам. Каб пабудаваць дынамічны сюжэт з захапляльнай інтрыгай, былі выкарыстаны магчымасці як уласна лялечнага, так і музычнага тэатра, а таксама камп'ютарная графіка. Містычнае "Вянчанне" перанесла гледачоў з рэальнасці ў свет трызнення героя, узняло праблему адказнасці звышасобы за неабмежаваную ўладу, вострa паставіла пытанне пра крызіс чалавецтва. Нарэшце, бясспрэчным лідарам сёлетняга форуму стала "Пікавая дама", якая скарыла як гледачоў, так і спецыялістаў лёгкасцю, іранічнасцю, інтэлектуальнасцю і постмадэрніцкай інтэрпрэтацыяй твораў Пушкіна і Чайкоўскага.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што вынікі прэміі выклікалі захапленне тэатральнай грамадскасці. Перамога "Пікавай дамы" ў чатырох намінацыях — сведчанне густу Беларускай тэатральнай акадэміі і праява справядлівасці. Але адначасова тут хаваюцца і свае падводныя камяні. Амаль абсалютная перамога аднаго спектакля азначае і тое, што ў яго, на жаль, мелася няшмат канкурэнтаў. Акрамя таго, сёлетні форум засведчыў крызісныя тэндэнцыі ў драматычным тэатры, бо, на жаль, ніводная пастаноўка не змагла скласці канкурэнцыю лялечнаму тэатру.

Разам з тым лепшыя спектаклі ўсталявалі планку для іншых калектываў. Упэўнены, што асобныя з сёлетніх сталічных прэм'ер ("Вестсайдская гісторыя" Музычнага тэатра, "Шоўк" сталічнага лялечнага тэатра, "Дажыць да прэм'еры" РТДБ) ужо могуць прэтэндаваць на перамогу ў ІІІ Нацыянальнай тэатральнай прэміі. І іх мастацкі ўзровень адкрые для айчыннага тэатра новыя далягляды.



Сцэна са спектакля "Вянчанне".

Нататкі пункцірам

# Гэта быў жарт?..

Містычную арыфметыку старасвецкай показкі ўсмешліва падхоплівае Гродзенскі лялечны тэатр: у найноўшай "Пікавай даме" — дванаццаць персанажаў. Іх увасабляюць чатыры акцёры. На адным стале, абцягнутым зялёным: для гульні, і не адно для гульні, у карты. Стол абмяжоўвае крохкае сцэнічнае жыццё марыянетак... хіба прасторай Пецярбурга і фантазійным светам Алега Жугжды. На памежжы гэтага свету і рэчаіснасці 19 лістапада паўстала Нацыянальная тэатральная прэмія (у чатырох намінацыях), але ж і да яе "Пікавую даму" ганаравалі ўсяляк...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

...Перадусім, бадай, за выключнае авалоданне сцэнічнай іроніяй. Далікатнай, шляхетнай, вытанчанай. Я б сказала, прафесійнай рэжысёрскай іроніяй Алега Жугжды (пасля з'яўлення "Пиковой дамы" ў друку Пушкіну казалі пра з'яўленне новага рамана (кірунку) у літаратуры — фантастычнага; тэатр Жугжды даўмеўся іранізаваць з фантастычнага ды містычнага). Ёю прасякнутая, пазначаная альбо афарбаваная кожная сцэна і кожная цытата — з Пушкіна, з Чайкоўскага, з фон Мэкк Надзеі Філарэтаўны — і ўсё пра грошы, усё пра грошы, якія трэба тэрмінова зарабіць, адасласць, аддаць, а іх усё бракуе, нестае, не выстачае! І адната разу — пра фінал "Пікавай дамы", які вынікнуў з музыкі Пятра Ільіча.

Адметна іранічны пралог да спектакля, які дзеецца ў фае: артысты тлумачаць сэнс гульні "штос" (якую за часам Пушкіна іменавалі "фараонам" альбо "банкам") ды прапануюць згуляць. У тую самую гульню Германа і графіні Ганны Фядотаўны. На грошы. На самыя невялікія! А ніхто не згаджаецца... Містыка? А-яй!

...На сцэне пры стале з'яўляюцца, мовім так, нехта ад імя Пушкіна ды нехта ад імя Чайкоўскага і абвяшчаюць стварэнне "Пікавай дамы"... пры гульні? Як гульні? Для партыі патрабуецца трэці. Ён ужо напагатове. Мужчыны (цывільныя фракі, вайсковы мундзір) прадстаўляюцца "тройкай, сямёркай тузам", і бяруцца... пераказваць апавесць Пушкіна пры картах ды час-почас прамаўляюць "ад імя" — Германа, Томскага, Чэкалінскага. Чацвёрты персанаж, падобна, блытае карты — усе жаночыя партыі вядзе Ларыса Мікуліч. Гучыць нескажоны пушкінскі тэкст.

Картачны стол і чорнае адзенне сцэны пазначаюць месца дзеяння. Вобраз спектакля акрэслівае вялікі кругазварот — карт, гульні, выпадку. На пачатку дзеяння калоды картаў свяжуткія, запакаваныя; пры канцы — зашмальцаваныя, загуляныя. Карты амаль не знікаюць са стала, разлятаюцца па падлозе, хаваюцца па кішэнях і ў капялюш Германа. З рук у рукі. Кругазварот выдае метафару чалавечага лёсу, узлёты і заняпады, багацце і галечу. І — лёс, які ўвесь час мае спраўдзіцца ці змяніцца.

"Пікавая дама" на зялёным стале пазначана хатняй утульнасцю і робіць гледачоў падобнымі да наведнікаў адмысловага тэатральнага салона. Там, дзе кінавытворчасці спатрэбіліся б выдаткі на здымкі процьмы артыстаў у розных атачэннях, гарадзенскім лялечнікам дастаткова... адкашляцца, перасунуцца альбо схапіцца за стэк і тузануць, скажам, Германа, апавядаючы пра Германна. Адрознасць гэтых персанажаў "з душою Мефістофеля, профілем Напалеона" мусіць дасціпна тлумачыцца для школьнікаў ("Пікавую даму" вывучаюць у дзявятым класе), але смешыць нават тэатразнаўцаў.





Строга кажучы, дзеянне з трыма лялькамі (Германа, Лізы ды графіні) вырашана як вялікая падрабязная ілюстрацыя, якая (раптам?) пачынае жыць сваім жыццём і не дужа зважаць на аўтараў. Цацачны фатэль, шырма, ложак, люстэрка належаць то графіні, то Герману, і толькі Лізавеце Іванаўне сесці няма куды. Інтэр'еры імкліва змяняюцца на экстэр'еры, дастаткова фатэль ці ложак замяніць на які-кольвек пецярбургскі помнік. Адметны дом графіні падобны да невялікае арэны, а Медны вершнік порстка апярэджвае Германа. Сучасныя раманы, якіх просіць графіня, уяўляюць сабою кніжкі звыклых фарматаў, гартаюцца, складаюцца, нясляваюцца. Са свечак часам кроплe воск. Знакаміты раманс графіні Ларыса Мікуліч спявае сваім уласным голасам. Беспамылкова.

Але кожная карта мае значэнне не толькі ў гульні. Тройка, сямёрка, туз і пікавая дама, што з'явілася нібыта жартам, запрашаюць вылічыць, скласці, адгадаць лёс. Хоць да містыкі і лёсу рэжысёр ставіцца іранічна, але іх не адмаўляе і не прыбірае са спектакля...

...Падчас самагубства Лізаветы Іванаўны з-пад моста з'яўляецца зухаваты гандальер (лялька чацвёртая, але ёй аддадзена толькі адна сцэна), свайго роду супрацьстаянне Пушкіна ды Чайкоўскага перайм ае (іранічна вырашае?) Даніцэці са сваім "Напоем кахання", і выхаванка графіні шчасліва трапляе замуж... Пад картачны кругазварот гучыць тэкст пра Лізавету Іванаўну, якая займела сваю выхаванку. Па крузе, па коле, здаецца, выяўляецца графіня ў новым абліччы... Альбо гэта быў жарт?

# На прыступках ля Чырвонай дарожкі

**Ірына ТУЛУПАВА**

Жаданне гледача — падстава для працы прафесіянала. Нездарма на адкрыцці II Нацыянальнай тэатральнай прэміі старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў у пераліку творцаў, хто шчыруе на ніве тэатральнага мастацтва — жывога і самага старажытнага — назваў і… Гледача! "Глядач — можа, самы галоўны творца з усіх тых, хто служыць тэатру. Бо без Гледача губляецца сам сэнс існавання тэатра".

Паяднанасць сцэны і залы запраграмаваная ў стагоддзях існавання жанру. Можа, хіба з цяперашнімі магчымасцямі выказваецца трошкі інакш. Згадайма адкрыццё конкурсу: урачыстасць і лазерное шоу ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Нараджалася яно на сцэне, але промні "наведваліся" ў залу, дзе ва ўтульных крэслах у прадчуванні асалоды ад сустрэчы з мастацтвам уладкаваліся шматлікія гледачы. Не падзяляючы прастору на асобныя сегменты, лазер вымалёўваў сімвалы Нацыянальнай тэатральнай прэміі і самога тэатра: дзве знітаваныя маскі, адна з якіх смяецца, другая — плача…

Насамрэч, у тэатры сутыкаюцца дабро і зло, свята і цені, смех і слёзы. Якраз гэтую знітавасць супрацьлеглых пачуццяў наяве і досыць яскрава ўдалося ўбачыць і адчуць на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі на спектаклі "Аіда". А менавіта ў сцэне, калі трыумфатар, галоўнакамандуючы егіпецкай арміяй Радамес прыйшоў з пераможнай весткай і егіпцяне славілі перамогу. А каханая Радамеса, рабыня Аіда, аплаквала няволю — сваю, бацькі і братоў. Кожны з персанажаў выказваў свае асабістыя пачуцці, і кожны асобны голас быў чуцён. Нягледзячы на складаны сюжэт, багаты на мізансцэны. Песні любові і адчаю, гарачага пачуцця і падазронасці; хваласпевы фараонам і ўслаўленне духоўнай і фізічнай моцы… Дзіва: прэм'ера оперы Дж. Вердзі "Аіда" адбылася 24 снежня 1871 г., а твор па-ранейшаму палоніць сэрцы. На сцэне ж заваражвае відовішчнасцю і... выключным гучаннем. Спектакль-эпапея акрамя іншага ўразіў скрупулёзным падыходам да яго ўвасаблення на сучаснай сцэне: хоць бы віртуальніцкім майстэрствам музыкантаў і салістаў ці касцюмамі і дэкарацыямі, выкананымі па эскізах народнага мастака Беларусі Яўгена Чамадурава. Вялікі тэатр Беларусі, які прадставіў спектакль "Аіда", адзначаны дыпломам аргкамітэта II Нацыянальнай тэатральнай прэміі за працу над лепшым музычным спектаклем тэатральнага сезона 2011/2012 гг. (рэжысёр-пастаноўшчык — Міхаіл Панджавідзе, дырыжор-пастаноўшчык — Вячаслаў Воліч).



*Сцэна са спектакля "Аіда".*

Зрэшты, тэатр — вялікі псіхолаг. І захоўвае лепшыя традыцыі ўвасаблення і раскрыцця характараў. Звернемся да яшчэ аднаго спектакля, пастаноўкі якога ажыццяўляліся ў розныя часы і ў розных краінах. Створаны пры фінансавай дапамозе фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, "Вар'яцкі дзень, або Жаніцьба Фігара" П. Бамаршэ прадставіў Гомельскі абласны драматычны тэатр. Прэм'ера камедыі ў дзвюх дзеях адбылася 27 красавіка 1784 г: яна два стагоддзі на сцэне! Сучасная беларуская пастаноўка (інсцэніроўка А. Дударава, рэжысёр-пастаноўшчык — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Чэпелеў) была таксама сярод намінантаў прэміі і, як падалося, хутчэй здзіўляла сваёй прастасцю. Магчыма, такім чынам прыцягвалася ўвага да першаасновы — тэксту, які, бясспрэчна, сам па сабе шэдэўральны. Энтузіязм, з якім ігралі гамяльчане, зразумела, быў заўважаны сталічнымі гледачамі. Зрэшты, мінскія тэатралы з цікаўнасцю асэнсоўвалі прапанаваныя пастаноўкі абласных тэатраў. Належным чынам ацаніла іх і журы конкурсу.

Залішне, відаць, гаварыць, што залы тэатраў гэтым тыднем былі запоўненыя: квіткі на пераважную большасць пастановак былі раскупленыя яшчэ да таго, як сталі паказваць конкурсныя спектаклі.

Найбольш ажыўлена, як мне падалося, сустрэлі гледачы спектакль, заяўлены як фарс, — "Пан міністар" паводле Ф. Аляхновіча. Яго з'яўленне на сучаснай сцэне перад беларусамі адбылося амаль праз 60 гадоў. У параўнанні з першымі двума згаданымі спектаклямі не так ужо і аддаленае па часе ўзнаўленне расказанай творцам гісторыі. Мо таму існавала небяспека выяўлення пэўных паралеляў з сучаснасцю. І прагa да ўлады свінабоя Філімона Пупкіна, і яго імкненне купіць пасаду і наладзіць адмысловы піяр самога сябе выклікала зразумелыя адносіны да персанажа. Рэплікі-спадарожнікі толькі ўзмацнялі эмацыянальны эфект, і рэакцыя залы прачыталася імгненна: гучалі не толькі апладысменты, а і смех, чулася падтрымка — "а што там у вас далей?"… Бясспрэчна, выканаўца галоўнай ролі Аляксандр Палазкоў (пераможца ў намінацыі "Лепшая мужчынская роля") прымушаў гледачоў разважаць, магчыма нават праяўляць шкадаванне ў дачыненні да свайго персанажа (першапачатковы пасыл не мае як быццам нічога заганнага — увайсці ў нацыянальны ўрад, стаць беларускамоўным міністрам, ды і здольнасць зарабіць грошы гаворыць пра многае), але ж… спыніцца і сёе-тое ўзважыць, падумаць таксама ёсць над чым!

Пра гэты, як і пра кожны спектакль, можна гаварыць шмат, паасобку ацэньваючы станоўчае і адмоўнае. Галоўнае, мы ўбачылі насамрэч вартыя пастаноўкі, а ў іх — сучаснага тэатральнага героя, дыялог-палеміку з гледачом, забаўляльна-эфектныя відовішчы, маштабнасць сцэнічнай дзеі, здольнасць задаваць, магчыма, не зусім прыемныя пытанні, шматжанравасць і нават спалучэнне жанраў…

Словам, тэатр жыве! І значыць, будуць чарговыя сустрэчы на яго прыступках.

# Зямля пад белымі крыламі



## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

### Слова краязнаўцы



**Валянціна ДЫЯКОНУ, малодшы навуковы супрацоўнік Брагінскага гістарычнага музея з карціннай галерэяй, распавядае пра цікавыя легенды і паданні, што датычаць некаторых гістарычных падзей:**

— У 1574 годзе гаспадарамі Брагіна і яго ваколіц сталі магутныя магнаты Аляксандр і Міхаіл Вішнявецкія. Каля свайго замка, у паўночнай частцы вёскі Тэльман, на правым беразе ракі Брагінка, па іх загадзе ў канцы XVIII ст. быў разбіты парк. Спланавалі яго па радыяльна-рэгулярнай схеме, перад замкам размясцілі газон з вялізным каменем. Двор Вішнявецкіх знаходзіўся ў незвычайна жывапіснай мясцовасці, каля ракі. Вучоныя дапускаюць, што Гарадзішчанскі замак быў пабудаваны ў стылі барока і парк меў характэрныя прыкметы гэтага стылю.

З князямі Вішнявецкімі звязана некалькі цікавых гісторый. Разам з іншымі польскімі феадаламі яны імкнуліся выкарыстоўваць розных самазванцаў і авантурыстаў для ажыццяўлення сваіх рабаўніцкіх планаў захопу і падначалення рускіх зямель. У князёў Адама і Канстанціна на гэта былі асобыя прычыны. Яны тлумачыліся сур'ёзнымі рознагалоссямі з Маскоўскім царом Барысам Гадуновым з-за спрэчных пагранічных гарадкоў на левабярэжным Дняпры. Гэтыя спрэчкі часам заканчваліся ўзброенымі сутыкненнямі. У сувязі з гэтым цяпер зразумела, чаму менавіта ад княжацкіх палацаў у Брагіне і Гарадзішчы пачаўся шлях на Маскву першага царскага самазванца Ілжэдзмітрыя І, які на самай справе быў манахам Чудава манастыра Рыгорам Атрэп'евым.

Сустрэча і знаёмства Марыны Мнішак, дачкі польскага ваяводы, з Ілжэдзмітрыем І, паводле адной з версій, адбыліся менавіта ў палацы князя Канстанціна ў Гарадзішчы. Руіны гэтага замка, дзе быццам бы сустракаліся маладыя авантурысты, захаваліся да 1917 года. У першыя гады савецкай улады рэшткі каменных пабудоў разабралі на гаспадарчыя патрэбы. Каля тых руін знаходзіўся і Камень кахання. У далейшым яго перамясцілі ў цэнтр парку, дзе ён ляжыць і цяпер.

Мясцовыя жыхары з пакалення ў пакаленне перадаюць паданне, што менавіта каля гэтага каменя Ілжэдзмітрый прызнаваўся ў каханні Марыне, хоць гісторыкі адмаўляюць версію таго, что Марына наогул калі-небудзь была ў Гарадзішчы. Тым не менш тутэйшыя жыхары і сёння вераць: калі маладыя пасядзяць на гэтым камені, то шлюб будзе шчаслівым, і асабліва тады, калі абмяняюцца яго кавалачкамі. Нядзіўна, што за час свайго існавання камень-валун значна паменшыўся ў памерах.

## Залаты фонд кніжнай графікі

У палацы Румянцавых і Паскевічаў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адкрылася мастацка-літаратурная выстаўка з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы "З кутка жаданняў", прысвечаная жыццю і творчасці Песняра ў кніжнай графіцы беларускіх мастакоў.

Экспазіцыя прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі і Года кнігі. Экспанаты выстаўкі, якая атрымала назву аднаго з вершаў паэта, набліжаюць асобу класіка да наведвальнікаў, адлюстроўваюць сюжэты яго твораў, знаёмяць з іх героямі. Духоўны свет паэзіі Песняра, асноўныя тэмы яго творчасці — Радзіма, паэт і народ, храство Беларусі — натхнілі не адно пакаленне мастакоў. Створаныя імі цудоўныя ілюстрацыі да кніг Янкі Купалы, што пабачылі свет у розныя гады, увайшлі ў залаты фонд беларускай кніжнай графікі XX — пачатку XXI стст. У экспазіцыі — выданні Песняра з ілюстрацыямі айчынныхмастакоў:кнігідлядарослыхідзяцей, рарытэтныя, юбілейныя і ўнікальныя мініяцюрныя выданні.

**Бажэна СТРОК**

### Музейны ўнікат

# З далёкай Канады

Фонды Драгічынскага ваенна-гістарычнага музея імя Д. Удовікава папаўняюцца новымі і цікавымі экспанатамі. Зусім нядаўна жыхар райцэнтра Іван Лявончык прынёс вельмі рэдкі дакумент — сертыфікат, які выдалі яго прадзеду ў горадзе Антарыа (Канада) у 30-я гады мінулага стагоддзя.

**Сяргей ГРАНІК, фота Івана Мікалаева**



THE MINING ACT—ONTARIO

CERTIFICATE OF

FREEDOM FROM DISEASES OF THE RESPIRATORY ORGANS

Serial Number 19837 Date June 13-35

Name John Artuhevich

Address Sudbury Ont.

Nationality Polish

Married yes Single Age 35

Signature of Workman J. Artuhevich

N.B.—The holder of this certificate must be re-exa[…] examination, and annually thereafter.

ONTARIO

THE MINING ACT ONTARIO

CERTIFICATE OF FREEDOM FROM DISEASES OF THE RESPIRATORY ORGANS

*Сертыфікат, выдадзены ў Канадзе.*

На дакуменце — фотаздымак Івана Арцюхевіча, які ў пошуках лепшай долі выехаў на заробкі ў далёкую Амерыку. Але, каб уладкавацца ў шахту, яму патрэбны былі медыцынская даведка і страхоўка. Таму Івана Паўлавіча накіравалі на медыцынскую камісію, пасля праходжання якой і выдалі сертыфікат, дзе было ўказана, што дакумент пачынае дзейнічаць з 13 чэрвеня 1935 г. і яго ўладальнікам з'яўляецца Іван Арцюхевіч, ураджэнец вёскі Людвінова (Драгічынскага павета), паляк, жанаты.

А яшчэ сертыфікат пацвярджаў, што ў яго ўладальніка адсутнічаюць лёгачныя захворванні. Таксама было пазначана, што кожны год неабходна праходзіць медагляд і рэнтген. Атрымліваецца, што ўжо ў той час у Канадзе, каб прадухіць захворванне туберкулёзам, кожны працоўны праходзіў флюараграфію. Для медыкаў тагачаснай Польшчы гэта было недасягальны марай.

Паводле бабулі Івана Лявончыка, яе бацька вярнуўся на радзіму перад самым пачаткам Другой сусветнай вайны. На зробленыя ў Амерыцы грошы купіў пяць гектараў зямлі непадалёк ад Людвінова, дзе пабудаваў дом і накрыў яго бляхай. Але зямлёю так і не змог скарыстацца, бо ў 1939 годзе ўлада змянілася. Потым былі вайна і калектывізацыя. У савецкія часы Іван Арцюхевіч працаваў паляводам у калгасе, а калі выйшаў на заслужаны адпачынак, атрымліваў пенсію ў памеры 12 рублёў 20 капеек.

### Памяць

# Наступны прыпынак — «Мінулае»

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Аўтапрабег па мясцінах Першай сусветнай вайны прайшоў на Вілейшчыне.

У ім удзельнічалі казакі Вілейскага раённага аддзялення "Усебеларускага аб'яднанага казацтва", гісторыкі, групы вайскоўцаў-рэканструктараў з брэсцкага ваенна-гістарычнага клуба "Рубеж", члены сталічнага ваенна-гістарычнага клуба "Эпоха" і інш. Арганізатарам мерапрыемства выступіў Фонд памяці Першай сусветнай вайны "Крокі", які ўзначальвае мастак, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" Барыс Цітовіч.

Першы прыпынак — могільнік "Лясное", дзе пахаваны рускія салдаты, што загінулі непадалёк ад вёскі Чырвоны Беражок, і казакі, што злажылі галовы ля вёскі Трапалава падчас Свянцянскага прарыву (Вілейскі раён), а таксама казакі, забітыя ў баях пры ліквідацыі гэтага прарыву ў верасні 1915 года. У гэтай аперацыі бралі ўдзел І Амурскі і ІІІ Данскі казачыя палкі. Да брацкай магілы былі ўскладзены вянкі, кветкі.

Другі прыпынак мы зрабілі ў вёсцы Бараўцы, дзе ўсталявана капліца. На адным з валуноў ля помніка чытаем надпіс: "З 1918 па 1973 год на гэтым месцы знаходзілася капліца на ўспамін пра палеглых у Мікалаеўскую вайну 1914 — 1918 гг.".

— Капліцу пабудавалі жыхары тутэйшых вёсак у 1918 годзе ў памяць пра тых, хто не вярнуўся з Першай сусветнай вайны, — распавёў Барыс Цітовіч. — Але ў 1973-м нехта зачапіў яе трактарам, скрануў з месца і спіхнуў у роў. Людзі паспелі ўратаваць толькі крыж. Да 80-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны пабудавалі новуюкаплiцу, якая вельмі падобная да былой.

На некаторы час удзельнікі прабегу затрымаліся каля паклоннага крыжа ў вёсцы Жарсвянка. Тут ёсць невялікае брацкае пахаванне. У 2000 годзе курсанты Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь і Ваеннай акадэміі Бундэсвера (Германія) усталявалі на ім шасціметровы крыж.

Наступны гістарычны аб'ект — мемарыяльны комплекс, усталяваны на месцы пахавання № 16 20-га вайсковага корпуса 2-й рускай арміі. Ён знаходзіцца непадалёк ад вёскі Рускае Сяло. Потым падарожнікі наведалі помнік воінам каля вёскі Папаўцы. Тут падчас Першай сусветнай вайны знаходзіўся перавязачны атрад 29-й пяхотнай дывізіі 20-га армейскага корпуса 2-й рускай арміі.

Вёска Нарач. Побач з царквою — магіла протаіерэя Паўла Сасноўскага і хлопчыка Васіля Занкавіча. Барыс Цітовіч распавёў: "Протаіерэй Павел Сасноўскі падчас Першай сусветнай вайны аказваў дапамогу параненым і за гэта быў узнагароджаны



*Падчас запальвання свечкі каля капліцы-помніка ў вёсцы Бараўцы.*

ордэнам Святой Ганны. Падчас Вялікай Айчыннай вайны мясцовыя паліцаі схапілі Васіля Занкавіча, бо яго бацька быў камандзірам партызанскага атрада, тым самым хацелі прымусіць бацьку выйсці з лесу. Протаіерэй Павел Сасноўскі ўступіўся за хлапчука. З імі фашысты жорстка расправіліся".

Удзельнікі аўтапрабегу наведалі і Лазарэтны могільнік у Забродскім лесе, капліцу Барыса і Глеба на ўрочышчы "Рэўткі", у якой Барыс Цітовіч абсталяваў музей, дзе і змяшчаюцца ўнікальныя рэчы, знойдзеныя падчас раскопак.

### Праекты

# Непаўторная атмасфера Сярэднявечча

**Раіса МАРЧУК**

У рамках культурнай акцыі "Музейныя лабірынты" Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прадставіў праграму "Подых рыцарскай героікі мінулага". Падчас музейнага занятку "З гісторыі пісьменства" юныя наведвальнікі пазнаёміліся з гісторыяй узнікнення пісьма і кнігі, паспрабавалі пісаць на бяросце, а таксама ў тэхніках вузельчыкавага пісьма і клінапісу.

Супрацоўнікі музея прапанавалі прысутным спыніць свой позірк на каштоўным скарбе — Кнізе. На працягу многіх стагоддзяў яна служыць крыніцай ведаў для чалавека, распавядае пра розныя часы і лёсы людскія. А іншы раз і ўласна пра сябе, пра тое, які шлях ёй даваўся прайсці перш чым кніга стала такой, якой мы яе бачым.

Разам з творчым калектывам "Майстэрня ўражанняў" удзельнікі праграмы здзейснілі вандроўку па гістарычных эпохах і ўзялі актыўны ўдзел у старадаўніх гульнях, танцах і забавах, характэрных для часоў Вялікага Княства Літоўскага. Разам з дамамі XIX ст. праявілі свае таленты ў свецкіх размовах, конкурсе на лепшае веданне паэзіі. Асабліва захапілі усіх пошук "скарбу" і фехтаванне.

Клубы гістарычнай рэканструкцыі "Гівойт" і "Карона Захаду" прапанавалі прысутным стаць сведкамі спаборніцтва, падчас якога мужныя ваяры прадэманстравалі майстэрства валодання мячом, а жывая музыка і танцы стварылі непаўторную атмасферу Сярэднявечча.

Першы беларускі форум рамеснікаў сумесна з магазінам HandMade.by арганізаваў для ўсіх жадаючых майстар-клас па скрапбукінгу. Таленавіты майстар, адміністратар форуму і шэф-рэдактар часопіса "Мастерица" Антаніна Елісеева пазнаёміла ўдзельнікаў праграмы з інструментамі і тэхнікамі, пры дапамозе якіх можна сваімі рукамі зрабіць паштоўку.

# Летапіс подзвігаў і патрыятызму

Тры дзясяткі гадоў таму ў нашай краіне быў створаны музей ДТСААФ. Гэты музей, адзіны ў сваім родзе на постсавецкай прасторы, даўно стаў своеасаблівай візітнай карткай беларускага абароннага таварыства.

**Андрэй ДРОБ,**
**фота аўтара і прадастаўленае музеем ДТСААФ**

Экспазіцыя ўстановы размясцілася ў чатырох залах і налічвае больш як дзве тысячы экспанатаў, каля тысячы фотаздымкаў, шмат дакументаў, якія прадстаўляюць гісторыю нашай краіны, адлюстроўваюць дзейнасць ДТСААФ Беларусі пачынаючы з 1918 года. Па вялікім рахунку — гэта летапіс подзвігаў і патрыятызму, праяўленых яго выхаванцамі падчас Вялікай Айчыннай вайны, хроніка розных этапаў падрыхтоўкі спецыялістаў для Узброеных сіл, іншых сілавых структур і народнай гаспадаркі, дынамічнага развіцця авіяцыйных і тэхнічных ваенна-прыкладных відаў спорту.

Першая зала прысвечана гісторыі стварэння абароннага таварыства і яго дзейнасці з 1918 па 1951 год. Тут змешчаны шматлікія гістарычныя матэрыялы, а таксама баявыя ўзнагароды і асабістыя рэчы легендарных членаў гэтай арганізацыі. Стэнды распавядаюць пра працу розных ячэек, школ і клубаў Тсаавіяхіма, найважнейшай задачай якіх была ваенная падрыхтоўка насельніцтва. Тут жа захоўваюцца знакі "Ворошиловский стрелок", "Ворошиловский всадник", "Готов к ПВХО", "Готов к санитарной обороне" і іншыя, што сталі вялікай рэдкасцю. Увагу наведвальнікаў нязменна прыцягвае і галерэя партрэтаў і бюстаў больш як пяцідзесяці Герояў Савецкага Саюза — выхаванцаў таварыства: лётчыкаў і стралкоў, артылерыстаў і танкістаў, байцоў народнага апалчэння і партызан, падпольшчыкаў, якія адважна і ўмела ваявалі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх — двойчы Герой Савецкага Саюза Павел Галавачоў (зрабіў каля 460 баявых вылетаў і збіў 30 варожых самалётаў), Героі Савецкага Саюза лётчыкі Аляксандр Гаравец (ён адзіны ў свеце збіў у адным баі 9 самалётаў) і Барыс Коўзан (здзейсніў чатыры тараны ў небе).

Экспазіцыя другой залы ахоплівае перыяд з 1951 года па сённяшні дзень і распавядае пра пераемнікаў Таварыства садзейнічання авіяцыйнай і хімічнай прамысловасці: ДТСААФ БССР і ДТСААФ Рэспублікі Беларусь. У яго экспазіцыі адлюстраваны галоўныя вехі гісторыі абароннага таварыства СССР і БССР. На стэндах — фотаздымкі і ўзнагароды ветэранаў дзяржаўна-грамадскага аб'яднання, якія зрабілі значны ўнёсак у яго дзейнасць: Герояў Савецкага Саюза Аляксандра Антонава, Мікалая Раманава, Паўла Машэрава, Валянціна Арлова і інш.

Трэцяя зала распавядае пра дзейнасць арганізацыйных структур ДТСААФ па выкананні дзяржаўна значных задач. Экспануюцца матэрыялы пра сем лепшых школ, якім загадам ЦК ДТСААФ СССР было прысвоена званне "ўзорная". Уражвае экспазіцыя "Касмічныя браты", прысвечаная нашым землякам, ганаровым членам ДТСААФ, лётчыкам-касманаўтам, генерал-палкоўнікам авіяцыі, двойчы Героям Савецкага Саюза Уладзіміру Каваленку і Пятру Клімуку.

У чацвёртай зале можна даведацца пра дасягненні спартсменаў у тэхнічных, авіяцыйных і іншых ваенна-прыкладных відах спорту. На стэндах прадстаўлены дыпломы, граматы, медалі, кубкі, узнагароды чэмпіёнаў свету, Еўропы і Рэспублікі Беларусь. Галерэя "Спартыўны гонар ДТСААФ" распавядае пра сучасных знакамітых спартсменаў абароннага таварыства, а асобныя стэнды знаёмяць з рознымі відамі спорту. У зале змешчаны мадэлі самалётаў, караблёў, манекены парашутыста і аквалангіста.



*Падчас адкрыцця музея. Стужку пераразае старшыня Цэнтральнага камітэта ДТСААФ БССР Пётр Максімаў. 1982 г.*



*Мадэлі ваенных караблёў і падводнай лодкі.*

Варта прыгадаць тых, хто стаяў ля вытокаў стварэння музея. Яго заснавальнік і кіраўнік творчай групы Захар Слепчын — першы дырэктар Рэспубліканскага дома ДТСААФ. Леанід Шпак — аўтар мастацкага праекта і афармлення музея. Шмат сіл для таго, каб установа развівалася і папаўнялася ўнікальнымі экспанатамі, прыклаў Павел Машэраў, а таксама метадысты — Герой Савецкага Саюза Васіль Волгін, Аляксандр Ляпшэй, Алег Даніленка, Мікалай Раманаў. Па крупіцах збіралі ўнікальны гістарычны матэрыял былыя загадчыцы музея Людміла Мярцалава і Рэгіна Кузьміч. Зрабіць музей больш сучасным імкнецца і яго цяперашні кіраўнік — палкоўнік запасу Юрый Хамянкоў.

Мабыць, не памылюся, калі скажу: усе супрацоўнікі музея гісторыі ДТСААФ розных перыядаў разумелі ісціну, якую калісьці вельмі дакладна сфармуляваў Ханс Георг Гадамер: "У рэчаіснасці не гісторыя належыць нам, а мы належым гісторыі". І ўсведамленне гэтай пастаяннай спрычыненасці да вялікіх падзей і людзей, якія "жывуць" у музейных экспанатах, робіць іх своеасаблівымі "гадзіншчыкамі гісторыі", як выказаўся некалі Багуслаў Войнар.

Рашэннем калегіі Міністэрства культуры БССР 27 чэрвеня 1990 года за вялікую працу па зборы і захаванні гістарычнай спадчыны, вялікі ўнёсак у справу патрыятычнага, грамадзянскага і маральнага выхавання падрастаючага пакалення Музею гісторыі ДТСААФ было прысвоена званне "народны". Гэтую ўстанову штогод наведвае каля 12 тысяч экскурсантаў, а з моманту яго стварэння тут пабывала больш як 300 тысяч чалавек. У яго сценах адбылося больш як 11 тысяч самых розных мерапрыемстваў. Частымі гасцямі сталі вучні і студэнты, у тым ліку курсанты Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, вайскоўцы тэрміновай службы, сувораўцы, ветэраны вайны, працы, Узброеных сіл і ДТСААФ. У музеі пабывалі дэлегацыі амаль з усіх куткоў былога Савецкага Саюза і шматлікіх краін далёкага замежжа.

Напярэдадні юбілею былі створаны новыя экспазіцыі: "Афганістан: гераічнасць і наш боль", "Спартыўны гонар ДТСААФ", "Залаты фонд абароннага таварыства". Шмат сіл і энергіі аддалі для таго, каб музей выглядаў больш сучасна, супрацоўнікі ўстановы, сярод якіх Міхаіл Пінчук, Мікалай Шаўчэнка, Аляксандр Салаўёў, Васіль Ліхтаровіч, Кацярына Петава.

## Экскурс у мінулае

# Ігуменскае павятовае чынавенства

Калі жывеш у адным горадзе ці раёне, то не можаш не ведаць кіраўнікоў нават некалькіх пакаленняў. Пагадзіцеся, кіраўнік раёна (старшыня райвыканкама альбо, калі гаварыць пра ранейшыя часы, першы сакратар райкама партыі) — гэта не проста чыёсьці прозвішча, а чалавек, з імем якога звязваюць пэўныя пераўтварэнні ў жыцці рэгіёна. Ці то будаўніцтва школы, бальніцы, прадпрыемства, ці то ўвогуле знешні выгляд горада.

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

Зазірнём у гісторыю Пухавіцкага раёна, горада Мар'іна Горка, словам, Пухавіччыны пасля распаду Савецкага Саюза. Хто кіраваў акрамя сённяшняга лідара "вертыкалі" Фёдара Каралені? Ілья Траццякоў, Фёдар Супрун, Генадзь Шахлевіч, Сяргей Турко. І ўсіх іх памятаюць, звязваюць з імі пэўныя адрэзкі тутэйшай гісторыі. За перыяд работы на высокай пасадзе першай асобы раёна іх сэрцы і розум вытрымлівалі найвелізарнейшую адказнасць.

А хто быў надзелены гэтай адказнасцю ў далёкім мінулым? Давайце зробім экскурс гадоў гэтак на 130 — 140 назад. Час шмат што сцёр. Дык узгадаем хаця б імёны, паўторым для шырокага людскага кола тое, што яшчэ не згубілася.

Па-першае, тады тэрыторыя раёна ўваходзіла ў склад Ігуменскага павета. Такая адміністрацыйна-геаграфічная адзінка існавала ў 1795 — 1923 гадах. Лічы, 128 гадоў… "Сталіца", цэнтр павета — у сучасным Чэрвені (да 18 верасня 1923 года гэты горад іменаваўся Ігуменам).

Як форма кіравання справамі ў павеце, насельніцтва якога складала ў 1897 г. амаль 235 тысяч чалавек, а плошча была роўная 9434 квадратным кіламетрам, існавала так званая Дваранская Апека. Выбіраўся старшыня Павятовага Прадвадзіцельства дваран. Тут, дарэчы, трэба мець на ўвазе, што сістэма ўлады ў тыя часы, хаця і вызначалася пэўнай жорсткасцю, была не такой насычанай на выканаўцаў. Што датычыць Дваранскага сходу (з пэўнай доляй умоўнасці яго можна прыраўняць да сённяшніх райсаветаў), то звычайна яго пасяджэнне праводзілася адзін раз на тры гады. Зрэдку скліканіся надзвычайныя (паводле загаду ці з дазволу губернатара) пасяджэнні. Кіраваў работай сходу старшыня — прадвадзіцель дваранства. Хто меў права быць дэпутатам сходу? Чытаем у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі": "Выбарчае права атрымлівалі дваране, што мелі маёнтак альбо іншую нерухомасць коштам не меней за 15 тыс. руб., мелі чын правадзейнага стацкага саветніка (палкоўніка), праслужылі тры гады на выбарах на пасадзе прадвадзіцеля дваранства, упаўнаважаны да дробнамаёнткавай шляхты і інш.".

Напрыканцы 1870-х у Ігуменскім павятовым Прадвадзіцельстве дваран старшынствавалі засядацелі Мікалай Пятровіч Пятроў і Аркадзь Васільевіч Шыдлоўскі (абодва — калежскія асэсары). Гэта цывільнае званне па тым часе адпавядала маёрскім пагонам. Як правіла, калежскія асэсары займалі пасады малодшых столаначальнікаў у дэпартаментах міністэрстваў, былі малодшымі сакратарамі ў Сенаце, консуламі, правіцелямі губернскіх канцылярый, павятовымі паштмейстарамі. А пісьмаводцам (вёў усе папяровыя справы) у Ігумені быў тытулярны саветнік Канстанцін Ягоравіч Бабіцкі. Відаць, чалавек сталага ўзросту, бо на сваёй пасадзе знаходзіўся з 1855 года. Немалаводам быў і калежскі асэсар Мікалай Пятроў, бо вядома, што за сваю шматгадовую службу на працягу 35 гадоў адзначаны ордэнам Святога Уладзіміра IV ступені.

Павятовыя канцылярскія справы былі і на плячах сакратара Паула Сцяпанавіча Турцэвіча, столаначальніка Станіслава Пятровіча Пецаноўскага (між іншым, Пецаноўскі — выпускнік Ігуменскага павятовага вучылішча). Рэгістратарам працаваў калежскі сакратар Лука-Вікенцій Восіпавіч Валадзько.

Кажучы сучаснай мовай, "ваенкаматам" кіраваў павятовы воінскі начальнік (ён жа — і начальнік мясцовай воінскай каманды) падпалкоўнік Анемпадзіст Паўлавіч Крыцкі. Трэба меркаваць, афіцэр і чыноўнік шматвопытны. З узнагарод меў ордэны Святога Уладзіміра IV ступені, Святой Анны II і III ступеняў з мячамі і бантам, Святога Станіслава II ступені. Быў адзначаны і медалём за падаўленне бунту ў Венгрыі і Трансільваніі.

Праваахоўныя (паліцэйскія) функцыі выконвалі станавыя прыставы — тытулярны саветнік Елісей Сцяпанавіч Змаровіч, калежскі асэсар Іван Залюбоўскі, калежскі сакратар (званне на ступень ніжэйшае, чым тытулярны саветнік, і на дзве ніжэйшае за калежскага асэсара, адпавядала штабс-капітану), кавалер ордэна Святога Станіслава III ступені Пётр Герасімавіч Арол.

Вось асноўная чыноўная эліта павета, вось гаспадары канца XIX стагоддзя, тыя асобы, да якіх на паклон ішлі і шляхта, і сяляне, і мяшчане… Ці заўсёды яны, прасіцелі, дамагаліся-дабіваліся праўды? Пытанне з пытанняў! Але і на яго, несумненна, ёсць адказы. Праўда, гэта ўжо фрагменты іншай гісторыі.

# Мода вяртаецца

Сталічны клуб “Прырода і фантазія” добра вядомы аматарам народнай творчасці. Яго члены актыўна дэманструюць свае дасягненні. За чатыры апошнія гады дзесяць выставак прайшло ў розных гарадах Беларусі, пяць — у Мінску. Новая і вельмі прадстаўнічая выстаўка “Сэрцу родныя матывы” ладзілася нядаўна ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Амаль 40 аўтараў, а гэта ў асноўным людзі сталага ўзросту, прэзентавалі каля 240 выдатных работ. Усіх гэтых творцаў аб’ядноўвае любоў да прыроды, якую яны і адлюстроўваюць у маленькіх шэдэўрах, выкананых у самых розных тэхніках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

— Напрыклад, Ірына Кірылава, інжынер па спецыяльнасці, прадставіла больш як 15 работ, — распавёў кіраўнік клуба “Прырода і фантазія” Аляксандр Лейка. — Гэта і дэкупаж — вельмі прыгожыя распісныя талеркі. І вырабы з гліны, шкла, скуры і дрэва, работы ў тэхніцы батык. Творы Ірыны Станіславаўны ўжо больш як паўгода разам з вырабамі іншых нашых майстроў дэманструюцца ў Валожынскім раённым краязнаўчым музеі. А вось Зінаіда Шыдлоўская займаецца піраграфіяй — стварае адмысловыя карціны, а дакладней, выпальвае іх па тканіне — па натуральным карэйскім атласе, які не дае вялікіх пагрэшнасцей. У выніку атрымліваюцца вельмі прывабныя творы. А яшчэ Зінаіда Іванаўна стварае дзіўныя карціны з бяросты. Тэхніку выпальвання па тканіне, гільяшыраванне, выдатна асвоіла і Ала Мікалуцкая. Нельга было не спыніцца каля яе адмысловых абрусаў і сурвэтак. Дасканала валодае лямцавым дызайнам Зінаіда Шыдлоўская. Напярэдадні зімы так і хочацца прыдбаць сабе цёплую рэч ад такога майстра.



*Валянціна Лаўрэнава. Лясная скульптура — “Краб” і “Гномік”.*

Анатоль Крывенка, які чатыры дзесяцігоддзі адпрацаваў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прадставіў адзінаццаць жывапісных палотнаў. Яго работы дэманстраваліся ў Валожыне і Міёрскім раённым гісторыка-этнаграфічным музеі. Увагу наведвальнікаў прыцягвала і гэтак званая лясная скульптура Валянціны Лаўрэнавай. Высокім майстэрствам вызначаюцца вырабы Аляксандра Лейкі ў гэтай жа тэхніцы.

— Углядаючыся ў работы членаў клуба, адразу адчуваеш, што ў кожным вырабе ёсць часцінка душы майстра, дух часу, у які ён тварыў, — зазначыла дырэктар Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва Лідзія Каліноўская. — Мода прыходзіць і знікае, але заўсёды вяртаецца. Гэта можна аднесці і да вырабаў майстроў з клуба “Прырода і фантазія”. Калісьці амаль кожная жанчына ўмела вязаць, а выробленыя сваімі рукамі рэчы карысталіся велізарнай папулярнасцю. Потым модніцы пачалі аддаваць перавагу серыйным фабрычным навінкам, але ўсё вяртаецца — вязаныя рэчы зноў сучасныя! Радуе тандэм, які склаўся паміж супрацоўнікамі нашай установы і майстрамі клуба, таму прапануем ім правесці серыю майстар-класаў для падлеткаў, іх педагогаў і наведвальнікаў нашага цэнтра. Няхай навучаць іх стужкаваму дызайну, вышыўцы, вязанню кручком, іншым рамёствам.



*Анатоль Крывенка. Кампазіцыя “Асенні эцюд”.*

Цяпер выстаўка членаў клуба “Прырода і фантазія” праходзіць у Лагойскім гісторыка-краязнаўчым музеі імя К. і Я. Тышкевічаў і Бягомльскім музеі народнай славы. Наступныя вернісажы чакаюцца ў Гісторыка-культурным запаведніку “Заслаўе” і Прэзідэнцкай бібліятэцы.

## *Творчая майстэрня*

# Зачароўвае чарот з лазою

У вёсцы Дрычын Пухавіцкага раёна жыве і працуе член Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, лаўрэат і дыпламант “Лазовых карункаў” 2000, 2002, 2008 гадоў Васіль Карлюкевіч.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

Чарот, рагоз, сітняк Васіль Мікалаевіч абагаўляе. Напрыклад, з чароту можна ствараць чароўныя рэчы — капелюшы, сумкі, кашы. “З балота прыйшлі ў нашу хату абярэгі, хлебніцы, цукерніцы, цыноўкі”, — жартаўліва заўважае майстар, які спрычыніўся да самабытнай народнай спадчыны яшчэ падчас вучобы ў Пухавіцкай сярэдняй школе. Зацікавілі юнака адметнасці ў народных звычаях і абрадах жыхароў мястэчак, дзе ў 30 — 40-я гады мінулага стагоддзя чатыры разы на год ладзіліся кірмашы і вялікім попытам карысталіся вырабы мясцовых рамеснікаў — ночвы, конаўкі, місы.

Вышукі юнака далі плён. Васіль зацікавіўся гісторыяй промыслаў — пачаў збіраць дыялектныя словы, запісваў у спецыяльны сшытак найменні прадметаў побыту: гліняны посуд па-пухавіцку — ганчарка, кош для збірання ягад — набірка, салонка — сальніца.

Народная спадчына захапіла яго. Бегам часу Васіля Карлюкевіча залічылі ў штат супрацоўнікаў Пухавіцкага раённага аддзела адукацыі. За работу ўзяўся з усёй шчырасцю. Адказваючы за стан працоўнага навучання ў школах, ён нямала часу праводзіў у майстэрнях, наведваў школьныя краязнаўчыя музеі, цікавіўся прадметамі і рэчамі дэкаратыўнага мастацтва. У Дрычынскай СШ — вырабамі бондараў, Пухавіцкай — чырвона-белымі ручнікамі, у Турынскай — паўкашом з лазовых пруткоў.

У школах, меркаваў Васіль Мікалаевіч, павінны афармляцца экспазіцыі. Да такой высновы ён прыйшоў пасля наведвання Мар’інагорскай СШ № 2. Падняўся на другі паверх — і нібы трапіў у казку. Сцены будынка былі ўпрыгожаны малюнкамі па матывах народных казак, разьбой, саламянымі скульптурамі, вітымі пляценкамі. Тут раз на два гады ладзілася выстаўка “Бабулін куфэрак”.

З прапановай арганізаваць выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў школах Васіль Карлюкевіч выступіў на пасяджэнні савета райана. Было вырашана адкрываць у кожнай школе, калі ў ёй 200 і больш вучняў, этнаграфічныя кузні і актывізаваць дзейнасць рамесніцкіх гурткоў.

У вольны час Васіль Мікалаевіч шукаў у балотных зарасніках матэрыял для сваіх вырабаў. Паступова пачаў асвойваць і тэхналогію пляцення з драўлянай стужкі. У 2002 годзе атрымаў запрашэнне да ўдзелу ў абласным свяце “Лазовыя карункі”. І стаў лаўрэатам у намінацыі “Пляценне з драўляных стружак”. Сёння майстар з Дрычына выдатна засвоіў рознае лозапляценне: рабрыстакрыжовае, ажурнае, паслойнае, квадратнае, загібка коскай, пляценне вяровачкай. Вырабы майстра сталі больш складанымі, камбінаванымі — у іх спалучаюцца лазовыя пруты, драўляныя стужкі, балотныя травы. Летась удзельнічаў у рэспубліканскім конкурсе майстроў лозапляцення ў Дудутках і заняў першае месца. У Васіля Карлюкевіча ёсць ужо і нямала паслядоўнікаў на Пухавіччыне.



*Васіль Карлюкевіч захоплены стварэннем чарговага вырабу.*

## *З глыбінкі*

## Неўміручае слова Песняроў

Як заўсёды гасцінна сустракала дарагіх гасцей барысаўская Цэнтральная дзіцячая бібліятэка імя А. П. Гайдара, дзе ладзілася літаратурнае свята “Песняры зямлі беларускай”, прысвечанае юбілеям Янкі Купалы і Якуба Коласа.

“...Дзе нараджаюцца паэты? Часцей за ўсё не ў гарадскіх камяніцах, а ў вясковых хатах, на ціхіх леснічоўках — бліжэй да прыроды… Пад калыханку збажыны ў полі, пад музыку рачных і азёрных хваль, пад таямнічы пошум лесу…” — менавіта гэтыя словы сталі лейтматывам усяго мерапрыемства. Прысутныя ў зале госці “прайшліся” шляхамі Янкі Купалы ды сцяжынкамі Якуба Коласа, узгадалі родныя вобразы, адлюстраваныя ў творчасці вялікіх Песняроў. Падчас свята гучалі неўміручыя купалаўскія радкі, а таксама верш маладога беларускага паэта А. Бараноўскага “У Вязынцы”, які прачытала бібліятэкар Алена Адаменка. Не абышлося на свяце і без сцэнічных увасабленняў: урывак з камедыі “Паўлінка” падрыхтавалі супрацоўнікі бібліятэкі, а вучні 4 “Б” класа СШ № 9 інсцэніравалі казкі “Воўк-дурань” і “Зайкава хатка”. Навучэнцы ліцэя Ігар Серафімовіч і Марына Рогава пранікнёна чыталі ўрыўкі з паэмы “Новая зямля”, а Яніна Мірановіч выканала песню “Мой родны кут” на словы паэта.

Высокую адзнаку літаратурнаму святу даў унучаты пляменнік Якуба Коласа, былы настаўнік, краязнаўца Іван Белы. Ён шчыра падзякаваў арганізатарам мерапрыемства, яго ўдзельнікам за літаратурнае свята, якога, па яго прызнанні, чакаў даўно.

**Людміла ЗАХАРЭВІЧ, г. Барысаў**

## Сюжэты з жыцця

Падчас святкавання ў Лельчыцах Дня горада з задавальненнем пазнаёмілася з творчасцю мастака-аматара Уладзіміра Літвінава, які працуе ў райспажывтаварыстве. Уразілі закончанасць і выразнасць яго работ, на якіх майстар захаваў маляўнічыя мясціны Палесся і незабыўную Кубань, дзе прайшло яго дзяцінства, дзе ўпершыню ўзяў у рукі пэндзаль, каб даць волю дзіцячай фантазіі. “Мая першая настаўніца прапанавала намаляваць што-небудзь да Новага года, — успамінае Уладзімір Рыгоравіч. — Адразу ў галаве ўзнікла карцінка: машына, а на ёй — ялінка. Прычым старанна вывеў кожную іголачку. Гэты малюнак быў адным з лепшых”.

На карцінах Уладзіміра Літвінава адлюстравана тое, што ён бачыць вакол сябе. Спрабаваў ствараць партрэты, нацюрморты, нават абразы. Але з часам зразумеў, што яму падабаецца пісаць менавіта пейзажы. Мастак прызнаецца: займаючыся жывапісам, ён адпачывае. Тут вольныя мазкі, вялікія магчымасці для творчасці. Як правіла, мастак дзеліцца з гледачамі тым, што найбольш яго ўразіла. Так з’явіліся на карцінах некаторыя мясціны Сібіры, невялікая рака, якая ўпадае ў Ангару, возера Байкал... Бывае, ён дае волю фантазіі. Хаця сюжэты ў асноўным узяты з жыцця. “Мару намаляваць вясну ды стараюся памяняць танальнасць карцін, бо ў мяне пераважаюць цемнаватыя адценні, а хочацца, каб яны сталі больш мяккімі і светлымі”.

Зразумела, удасканальваць работы можна бясконца. Галоўнае — як уздзейнічае творчасць мастака на людзей. А ад карцін Уладзіміра Рыгоравіча вее дабром, цеплынёй, гармоніяй, чаго часам так бракуе ў нашым паўсядзённым жыцці.

**Святлана ЛІПСКАЯ, г. п. Лельчыцы**

## *Афарызм*

*Эх, зямля! Колькі думак людскіх нячутнымі крокамі прайшло па табе, звіваючы цябе вяночкамі надзей і ружова-светлых мар аб шчасці...*

**Якуб КОЛАС**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Выдавецкі дом “Звязда”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2717
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 22.11.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4972
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686